ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 63 (2524)
ПЯТНІЦА
11
снежня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





Мал. В. ТАРАСАВА.

**Бетховен—герой, Бетховен—правадыр, і ніколі, я думаю, ён не быў такі новы, такі неабходны, ніколі заклікі Бетховена не маглі нараджацца з такой сілай, як цяпер.**

**А. Луначарскі.**

По рашэнні Сусветнага Савета Міру ўсё прагрэсіўнае чалавецтва ў гэтыя дні адзначае 200-годдзе з дня нараджэння Людвіга ван Бетховена. Музыка Бетховена ў Беларусі — гэтай тэме прысвяціў музыказнаўца Л. Аўэрбах свой артыкул, які змешчаны на 14-й старонцы.

# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС

**7 снежня 1970 года ў Крамлі адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС.**

**Пленум адобрыў у асноўным праекты Дзяржаўнага плана развіцця народнай гаспадаркі СССР і Дзяржаўнага бюджэту СССР на 1971 год.**

**Пленум ЦК КПСС вырашыў склікаць чарговы XXIV з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза 30 сакавіка 1971 года.**

**У заключэнне на Пленуме выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС таварыш Л. І. Брэжнеў.**

## ПА ЛЕНІНСКІХ ЗАПАВЕТАХ, ПА ЛЕНІНСКАМУ ШЛЯХУ

ДРУГАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР ВОСЬМАГА СКЛІКАННЯ

Краіна ідзе насустрач XXIV з'езду КПСС. Савецкім людзям ёсць чым сустрэць гэтую велічную падзею. Падводзячы ў апошнія дні семідзесятага года вынікі руплівай працоўнай пяцігодкі, мы з гонарам бачым, якіх новых вышынь дасягнула Краіна Саветаў, як далёка сягнула па велічным шляху да камунізма.

У гэтыя дні ў Маскве, у Крамлі, праходзіць другая сесія Вярхоўнага Савета СССР восьмага склікання.

Дэпутаты, што з'ехаліся на сесію з усіх куткоў краіны, абмяркоўваюць і зацвярджаюць важнейшыя дакументы: Дзяржаўны план развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971 год, Дзяржаўны бюджэт СССР на 1971 год і выкананне Дзяржаўнага бюджэту СССР за 1969 год, праект Асноў воднага заканадаўства Саюза ССР і саюзных рэспублік.

Дакладчыкі, дэпутаты, што выступілі ў спрэчках, аднадушна падкрэслілі, што ўнесеныя на разгляд сесіі дакументы адлюстроўваюць карэнныя інтарэсы савецкага народа.

## ШЧЫРАЕ ДЗЯКУЙ ГЛЕДАЧА

*Ушанаванне народнага артыста БССР А. ТРУСА*

**Шматлікія прыхільнікі таленту народнага артыста рэспублікі Анатоля Міхайлавіча Труса запоўнілі глядзельную залу Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску, каб павіншаваць яго з 60-годдзем. Вечар адкрыў дырэктар тэатра заслужаны дзеяч культуры БССР Г. Асвяцінскі. Ад абкома партыі і аблвыканкома юбіляра віншаваў намеснік старшыні Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта С. Каваленка. Ён уручыў А. Трусу Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР, якою Анатоль Міхайлавіч быў узнагароджаны.**

**Аб творчым шляху народнага артыста рэспублікі расказаў галоўны рэжысёр тэатра лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР С. Казіміроўскі.**

**Цёплымі, прачулымі словамі юбіляра віншавалі сакратар Віцебскага гаркома партыі І. Навумчык, намеснік старшыні праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання заслужаны дзеяч мастацтваў БССР У. Стэльмах, начальнік абласнога ўпраўлення культуры Г. Клёсава, старшыня заўкома завода імя Кірава А. Бяргові̇к, старшыня калгаса «Чырвоная Армія» Віцебскага раёна Герой Сацыялістычнай Працы М. Кац і многія іншыя. Юбіляру былі ўручаны граматы і сувеніры.**

**Са словам у адказ выступіў юбіляр.**

**Вечар закончыўся паказам урыўкаў са спектакляў, у якіх удзельнічаў Анатоль Міхайлавіч.**

**Маладыя акцёры тэатра паказалі дасціпны тэатральны агляд, прысвечаны іх старэйшаму другу А. Трусу.**

## П'ЕСА А. МАКАЁНКА НА МАСКОЎСКАЙ СЦЭНЕ

У Маскоўскім тэатры сатыры 9 снежня адбылася прэм'ера спектакля па п'есе Андрэя Макаёнка «Зацюканы апостал». Спектакль паставіў рэжысёр Я. Радамысленскі. У вядучых ролях заняты артысты тэатра З. Зялінская, З. Высакоўскі, А. Лявінская, Т. Мурына, заслужаны артыст РСФСР і Таджыкскай ССР А.Солюс. На прэм'еры прысутнічаў аўтар п'есы.

Маскоўскія гледачы цёпла прынялі спектакль.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За заслугі ў развіцці выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы і ў сувязі з васьмідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў народнага мастака Беларускай ССР Марыкса Аскара Пятровіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

13 СНЕЖНЯ — ВЫБАРЫ НАРОДНЫХ СУДДЗЯЎ

# УСТАЦЬ, СУД ІДЗЕ!

*На пытанні карэспандэнта «Літаратуры і мастацтва» адказвае старшыня Вярхоўнага суда БССР А. БОНДАР*



Неяк мне давялося прысутнічаць на працэсе, дзе судзілі трох забойцаў. Зала кіпела абурэннем, сотні вачэй з нянавісцю ўглядаліся ў схіленыя постаці падсудных, цяпер ужо зусім не страшных, з нейкімі шэрымі, пад колер стрыжаных пад нулёўку галоў тварамі. Кожнае іх паказанне патанала ў гуле абурэння, які сціхаў толькі пасля таго, як суддзя пачынаў настойліва стукаць алоўкам па графіне. Гэта быў пажылы ўжо чалавек з шырокім спакойным тварам і нетаропкімі рухамі.

Канечне, сімпатыі яго цалкам былі на баку залы, і, тым не менш, ён не дазволіў сабе ніводнага рэзкага слова ў адрас падсудных, кожнае пытанне да іх было па-дзелавому лаканічнае і дакладнае.

Мне падумалася тады, што гэты пажылы чалавек выбраў сабе нялёгкую жыццёвую дарогу. Якая павінна быць самадысцыпліна, якую трэба выхаваць волю, каб вось так, з дня ў дзень становіцца ўпоперак сваім эмоцыям і сімпатыям, захаваць халодную і ясную галаву.

Менавіта з гэтага пачалася наша гутарка са старшынёй Вярхоўнага суда рэспублікі Аляксеем Георгіевічам Бондарам, чалавекам, які тры з палавінай дзесяткі гадоў аддаў юрыспрудэнцыі.

— Калі ў мяне пытаюцца, якім павінен быць савецкі суддзя, — гаворыць Аляксей Георгіевіч, — я адказваю прыкладна так: гэта чалавек, па-першае, палітычна пісьменны, юрыдычна адукаваны, чалавек, які добра ведае жыццё. Па-другое, ён павінен быць ва ўсіх адносінах прыстойным чалавекам, каб мець не толькі фармальнае права судзіць.

— І пры ўсіх гэтых якасцях, — кажу я, — суддзя— жывы чалавек са сваім настроем, які раптам можа сапсавацца, нарэшце, у яго проста можа забалець галава, калі нішто вакол не міла, калі раздражняешся з-за дробязі...

— Суддзя, які паддаецца свайму настрою, эмоцыям, доўга не ўтрымаецца на сваім месцы. У нас існуе цэлая сістэма судовага нагляду, і судовая памылка, як правіла, вельмі хутка вылазіць. Дарэчы, з кожным годам у нас усё менш і менш судовых памылак, скарацілася паступленне абгрунтаваных скаргаў на няправільныя рашэнні судовых органаў. Чым гэта вытлумачыць? Перш за ўсё павышэннем агульнай і юрыдычнай культуры работнікаў судовых органаў. Памятаю, адразу пасля вайны ў рэспубліцы суддзяў, якія мелі вышэйшую адукацыю, можна было пералічыць на пальцах (шмат юрыстаў загінула на франтах Айчыннай вайны), сёння ж з 263 кандыдатаў, якія паслязаўтра будуць балатыравацца на пасады суддзяў, больш за 90 працэнтаў маюць за плячыма юрыдычныя інстытуты. І яшчэ трошкі статыстыкі. 96,3 працэнта членаў судзейскага корпуса—камуністы.

— Аляксей Георгіевіч, старажытныя грэкі малявалі багіню правасуддзя Феміду ў выглядзе жанчыны з завязанымі вачыма, якая трымае вагі, на адной шалі якіх усе «за», на другой—«супраць». Цікава, як стасуецца гэты сімвал аб'ектыўнасці судзейства да нашай сённяшняй судовай практыкі?

— Я думаю, — усміхаецца старшыня, — што вочы не шкодзіць заўсёды трымаць адкрытымі. Калі ж гаварыць аб прынцыпе, дык наш суддзя, разбіраючы самае цяжкае злачынства, кіруецца законам і сваім унутраным перакананнем у справядлівасці прысуду, які ён вынес.

— Як гэта зразумець?

— Нашы законы гуманныя. Няма такога закона, дзе б за пэўнае злачынства прадугледжвалася толькі адна мера пакарання і ўсё. Амаль заўсёды ёсць мінімальная і максімальная мера. Якую ж з іх прымяніць— на сумленні суддзі. Вось тут яму трэба ўлічыць да дробязей усё, што датычыць асобы падсуднага, усе акалічнасці, якія спадарожнічалі злачынству. Трэба заўсёды помніць, што неапраўданая жорсткасць прыносіць такую ж шкоду, як і патуральніцтва. Наша задача не абмяжоўваецца пакараннем, мы ставім мэту перавыхаваць чалавека, павярнуць яго на правільны шлях.

На жаль, некаторыя людзі гэтага не разумеюць. Не ведаючы законаў, не разбіраючыся ў юрыспрудэнцыі, яны падыходзяць да дзейнасці суда з меркай футбольнага балельшчыка. Калі што не па іх—«суддзю на мыла» дый годзе.

Нядаўна мне давялося выступаць з лекцыяй перад адной аўдыторыяй. Гаворачы пра тое, што п'янства —амаль асноўная прычына большасці крымінальных злачынстваў, я прывёў адзін такі прыклад. П'яніца, які сістэматычна біў жонку, аднойчы, каб дасадзіць ёй, падняў руку на грудное дзіцё. Дзіцё, праўда, засталося жывое, але моцна пакалечанае. Прайдзісвета судзілі і далі яму пэўны тэрмін. Слухачы адразу засыпалі мяне запіскамі: «Чаму не далі яму вышэйшай меры?»

Яны не ведалі, што асуджаны падаў апеляцыю ў вышэйшую судовую інстанцыю аб змякчэнні пакарання і што аналагічную заяву падала і... яго жонка. Я гэта да таго, што суддзі даводзіцца на кожным кроку сутыкацца са складанымі жыццёвымі сітуацыямі, дзе трэба сто разоў усё ўзважыць.

— Аляксей Георгіевіч, зараз шмат дыскутуюць аб трохкутніку: суддзя, пракурор, адвакат, аб месцы кожнага з іх у судовым разбіральніцтве. Да таго, як стаць старшынёй Вярхоўнага суда, вы былі Пракурорам рэспублікі, так што можаце меркаваць аб усім гэтым з уласнага вопыту.

— Мне здаецца, што ўсё тут ясна — пракурор абвінавачвае, адвакат — абараняе, толькі суддзі нельга ні абараняць, ні абвінавачваць, ён павінен высветліць ісціну і толькі ісціну. Іншая справа, што сустракаюцца пракуроры, хоць і рэдка, якія разумеюць сваю функцыю вельмі вузка, абараняючы гонар мундзіра, ён, бывае, ідзе на ўсё, каб даказаць сваё, хаця першы абавязак пракурора стаяць на ахове закона. Сапраўды, вопытны разумны пракурор, а я ведаю шмат такіх, калі бачыць, што абвінавачванне грунтуецца на прыблізных фактах, зробіць усё, каб выратаваць чалавека і, фактычна, з пракурора ператвараецца ў абаронцу.

— А адвакат, бывае, з абаронцы ператвараецца ў пракурора?

— Вось тут ужо ніякая метамарфоза недапушчальная. Адвакат, якога б цяжкага злачынцу ні абараняў, па службовым абавязку павінен знайсці акалічнасці, якія змякчаюць віну падсуднага. Хаця я ведаю выпадкі, калі адвакаты раптам самі пачыналі выступаць у ролі абвінаваўцы. Помню да вайны, здаецца, у 1938 годзе, калі я працаваў пракурорам Мінска, на адным з працэсаў адвакат, ратуючы свайго падабароннага, пачаў абвінавачваць аднаго з падсудных. Той устаў і справядліва спытаў суддзю, хто тут з'яўляецца пракурорам? Суддзя тут жа пад рогат усёй залы паставіў адвоката на месца.

— Бытуе думка, што адвакат на працэсе адыгрывае фармальную ролю...

— У корані няправільная думка. Вопытны адвакат можа зрабіць вельмі многа для падсуднага. Я ведаю адзін судовы працэс, дзе падсуднага, які абвінавачваўся ў забойстве, прысудзілі да пакарання смерцю, і толькі адвакат выратаваў яго, даказаўшы, што забойцам быў іншы чалавек.

Хачу падкрэсліць, што ў апошні час роля адваката наогул узрасла. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР цяпер адвакат мае права ўключацца ў абарону са стадыі прад'яўлення абвінавачвання.

І апошняе пытанне, якое я задаю старшыні — аб ролі і практыцы таварыскіх судоў. У апошні час на старонках цэнтральнага друку з'явіліся карэспандэнцыі аб выпадках парушэння законнасці некаторымі таварыскімі судамі, аб тым, што часам на чале іх стаяць выпадковыя людзі.

— Не буду спрачацца, — гаворыць Аляксей Георгіевіч, — магчыма, што тамсям сустракаецца і такое. Але на маю думку, інстытут таварыскіх судоў (іх у рэспубліцы каля 9 тысяч) апраўдаў сябе. Яны адыгралі і адыгрываюць вялікую выхаваўчую ролю. Іншая справа, што трэба кантраляваць дзейнасць гэтых судоў, дапамагаць ім.

Гутарка наша падыходзіць к канцу. Ад імя чытачоў «Літаратуры і мастацтва» я віншую Аляксея Георгіевіча з надыходзячымі выбарамі народных суддзяў і жадаю, каб усе кандыдаты аказаліся вартымі высокага даверу народа.

**М. ЗАМСКІ.**



«Імем Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі...»
Судовае пасяджэнне вядзе старшы суддзя Кастрычніцкага раёна г. Мінска В. Семячка.

Фота Ул. КРУКА.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ





Днямі адбыліся чарговыя прэм'еры ў Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры імя Якуба Коласа і Дзяржаўным Рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага. Коласаўцы паставілі п'есу Ю. Сямёнава і Ул. Токарава «Семнаццаць імгненняў вясны». Рэжысёр — народны артыст БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Ф. Шмакаў, мастак — народны мастак БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Я. Нікалаеў, кампазітар — Б. Насоўскі. Пастаноўку п'есы «З вечара да палудня» Віктара Розава ў Мінску ажыццявіў рэжысёр А. Смелякоў. Мастацкае афармленне спектакля заслужанага дзеяча мастацтваў Казахскай ССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР В. Галубовіча.

На здымках — народная артыстка СССР А. Клімава і народны артыст БССР Р. Янкоўскі ў спектаклі «З вечара да палудня»; народныя артысты БССР А. Шэлег і А. Трус у «Семнаццаці імгненнях вясны».

рунках і відаць былі здалёку. Потым мы ўбачылі зводдалі высозны комін. Здавалася, ён падпірае неба, і дым, што ўсплывае з яго, не падымаецца ўгору, а адразу збочвае шлейфам. Комін-такі высозны: дзвесце пяцьдзесят метраў, як мы даведаліся пазней. Пад ім бялелі сцены і блішчалі шклом велізарныя вокны корпуса электрастанцыі.

Непадалёк паўстаў перад намі дзесяткамі шматпавярховых будынкаў і сам горад Новалукомль. Ад яго аж да самага небасхілу разаслалася святлеючая гладзь Лукомльскага возера.

Як і ўсюды—хлеб-соль, кветкі, словы прывітання. Затым мы пайшлі знаёміцца з горадам і электрастанцыяй. Нашымі гідамі тут былі старшыня гарвыканкома Т. А. Піскунова, якой яшчэ няма і трыццаці гадоў, і намеснік дырэктара ДРЭС П. М. Абраменка. Пазнаёміліся мы і з дырэктарам гэтага волата энергетыкі В. Я. Дзянісавым, маладым, энергічным, надзвычай цікавым чалавекам. Маладымі аказаліся і другія кіраўнікі горада і новабудоўлі.

*З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ УДЗЕЛЬНІКА ДЗЁН ЛІТАРАТУРЫ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ*

— Сярэдні ўзрост жыхароў нашага горада, — сказала старшыня гарвыканкома Тамара Андрэеўна, — дваццаць тры гады. І няма, бадай, у нашай краіне нацыянальнасці, прадстаўнікоў якой не было б у нас.

У Новалукомлі сёння жыве восем тысяч чалавек, а праектуецца горад на восемдзесят тысяч, бо вакол электрастанцыі вырасце шэраг звязаных з ёй прамысловых прадпрыемстваў. Электрастанцыя ж, як асвоіць поўнасцю запраектаваныя магутнасці, не будзе мець роўнай сабе ў Еўропе.

Мы думалі, што бачылі цуд у Наваполацку, аглядаючы новы горад, нафтазавод і хімічны камбінат, а тут, на будаўніцтве Лукомльскай ДРЭС, быў не меншы цуд і па значэнні, і па тэмпах, і па размаху.

Літаратурны вечар, на які прыйшлі будаўнікі, энергетыкі, навучэнцы, прайшоў з такім жа поспехам, як і ў Наваполацку. Выязджалі мы з Новалукомля позна ўначы, трэба было абавязкова дабрацца да раніцы ў Віцебск, там мы павінны былі яшчэ выступіць перад чытачамі і па тэлебачанні.

### «ДА ПАБАЧЭННЯ!» — АБЯЦАННЕ НОВЫХ СУСТРЭЧ

Дні беларускай літаратуры на Віцебшчыне, як і на Брэстчыне, праходзілі пад знакам падрыхтоўкі да XXIV з'езда КПСС, і размовы аб літаратуры вяліся з пункту гледжання вынікаючых адсюль задач. У час гэтай вельмі цікавай паездкі мы ўзмацнілі сувязі са сваімі чытачамі, пашырылі кола знаёмстваў з новымі людзьмі і іх стваральнымі справамі, узбагаціліся новымі ўражаннямі, матэрыялам для творчага роздуму. Спадзяёмся, што і ў тых, з кім сустракаліся, мы пакінулі нейкі светлы след.

І міжвольна думалася часам пры сустрэчах і новых знаёмствах: як мы, пісьменнікі, усё ж яшчэ мала паглыбляемся ў сённяшняе жыццё народа і паказваем гэтае жыццё ў сваіх творах! Мы часта жывём даўнімі, старымі ўяўленнямі. І калі, мабыць, старэйшым з нас гэта ў нейкай меры даравальна, дык маладзейшым, поўным творчых сіл і энергіі — ні ў якім разе!

І яшчэ — з намі гаварылі ў час сустрэч людзі самых розных прафесій і рознага адукацыйнага ўзроўню. Гаварылі або на добрай беларускай мове, або на рускай, але ніяк не на той ламанай, пакалечанай, якая становіцца «моднай» у творах асабліва маладых празаікаў і выдаецца імі за сучасную гутарковую мову з бясконцымі «ета», «етаго», «ужэ», «дужэ», «дак», «тока» (замест «толькі»), «сянні», «стыдно» і гэтак далей. Некаторыя настаўнікі пыталіся ў нас: што гэта такое? Бо вучні не супраць апраўдваць свае памылкі ў пісьме спасылкамі на падобныя творы, надрукаваныя ў часопісе ці газеце.

...Цягнік на Мінск адыходзіў ад Віцебскага вакзала ўвечары. Ішоў дробны сняжок, сняжынкі стракацелі-пераліваліся ў электрычным святле. І было трошкі сумна пасля развітання з таварышамі-віцяблянамі, якія праводзілі нас.

## КІНО

# НА ФОНЕ ПАЛЕСКІХ ПЕЙЗАЖАЎ

**СЕКЦЫЯ КРЫТЫКІ САЮЗА КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ БССР АБМЕРКАВАЛА ФІЛЬМ «НЕСПАДЗЯВАНАЕ КАХАННЕ»**

Студыя «Беларусьфільм» выпускае ў год пяць поўнаметражных мастацкіх фільмаў, таму не дзіўна, што кожны з іх выклікае вялікую цікавасць шырокай грамадскасці і прэсы. Вельмі добра, што ў апошні час у Саюзе кінематаграфістаў БССР адразу пасля грамадскага прагляду фільма наладжваецца яго абмеркаванне. Днямі прадметам такога чарговага абмеркавання стаў фільм «Неспадзяванае каханне» (аўтары сцэнарыя Г. Бекарэвіч і Ф. Конеў, рэжысёр-пастаноўшчык І. Шульман, аператар А. Аўдзееў).

Дзеянне «Неспадзяванага кахання» адбываецца ў наш час, у далёкай палескай вёсцы. Сюжэт нескладаны. Першая прыгажуня вёскі васемнаццацігадовая Аленка пакахала былога марака Веньку, зухаватага, вясёлага хлопца. Чакаецца вяселле. У вёску ў госці да бацькі прыязджае марак Аляксей, які раней вучыўся разам з жаніхом. Добра ведаючы Веньку як разбэшчанага, лёгкадумнага ў адносінах да жанчын чалавека, Аляксей вырашае ў што б там ні было не дапусціць гэтага шлюбу. Намаганні Аляксея не прапалі марна. Аленка ў дзень вяселля адмаўляецца ад жаніха.

— У гэтым фільме мы імкнуліся правесці вялікую думку, — сказаў на абмеркаванні рэжысёр І. Шульман, — аб адказнасці чалавека не толькі за свой лёс, але і за лёс іншых, за тое, каб у чужую хату не прыйшла бяда.

Рэжысёр Шульман не раз звяртаўся да «вясковай» тэмы («Шчасце трэба берагчы», «Строгая жанчына», «Крыніцы»). Месца дзеяння яго апошняга фільма выбрана не выпадкова. Тут І. Шульман настаўнічаў сорак гадоў назад і добра памятае, якія цяжкасці перажывала ў той час Палессе. Зараз, як сказаў рэжысёр у сваім выступленні, ён усхвалявана здымаў Палессе сённяшняе, дзе амаль кожны гаспадар мае сваю маторную лодку, а дзяўчаты апранаюцца ў модныя міні-сукенкі.

Праблемы кахання, дружбы, вернасці заўсёды хвалявалі і будуць хваляваць гледача. Ці ўдалося стваральнікам стужкі «Неспадзяванае каханне» па-новаму падысці да гэтай адвечнай і заўжды сучаснай тэмы? Якія новыя адценні чалавечых адносін яны заўважылі? Якія добрыя пачуцці абудзілі ў душы? Якімі новымі думкамі ўзбагацілі нас? Аб гэтым ішла гаворка на абмеркаванні фільма.

Перш за ўсё ўзніклі спрэчкі аб жанравай дакладнасці твора і сутнасці яго драматычнага канфлікту.

— Маркуючы па сцэнарыі, — сказаў кандыдат мастацтвазнаўства В. Смаль, — мне здавалася, што ёсць матэрыял для вадэвіля, лёгкай камедыі. Пра гэта сведчыць і вясёлая рэакцыя залы на некаторыя моманты: штосьці ад камедыі ў стужцы засталося. Але аўтары пераважна ўсур'ёз трактуюць сітуацыі, якія выглядалі б арганічна толькі ў гумарыстычнай інтэрпрэтацыі. І застаецца такое ўражанне: неглыбокае было кінематаграфічнае ворыва! Нават калі ўспомніць нашы фільмы 50-х гадоў «Зялёныя агні» і «Шчасце трэба берагчы», якія таксама крытыкаваліся за схематызм характараў і сітуацый, яны здаюцца ўсё ж глыбейшымі і больш псіхалагічна пераканаўчымі, чым новая стужка І. Шульмана.

— У «Неспадзяваным каханні» глядач бачыць толькі тое, — працягваў прамоўца, — што яму непасрэдна паказваюць на экране: двое хочуць пажаніцца, трэці перашкаджае ім. Ніякага другога плана, ніякіх паглыбленняў у псіхалагічныя матывы паводзін людзей. Пра што, уласна кажучы, фільм? Мо' пра тое, каб дзяўчаты асцерагаліся лёгкадумных маладых людзей? Ці не замала такой думкі для твора на паўтары гадзіны экраннага часу?

— Жанр фільма сапраўды не вызначаны, — сказаў кандыдат мастацтвазнаўства А. Красінскі. — Што гэта— кінакамедыя? Кінааповесць? Канфлікт (аўтары самі гэта адчуваюць) — традыцыйны. Але сутыкненне рэальнага жыцця — натурныя здымкі на Палессі — з пакінематаграфічнаму аблегчанай яго версіяй робіць штучным усё, што мы бачым на экране.

Схематызм фільма ў многім абумоўлены прымітыўнай абмалёўкай вобразаў галоўных герояў — і ў сцэнарыі, і на экране. Мабыць, літаратурны матэрыял вінаваты тут у першую чаргу.

— Самы нецікавы герой— Аляксей, — зазначыў метадыст Саюза кінематаграфістаў БССР І. Рэзнік. — Драматургічная абмалёўка вобраза зусім невыразная, і акцёр Павел Маразенка нічым яго не ўзбагаціў. Па сутнасці, жывымі на экране выглядаюць эпізадычныя ў гэтай сюжэтнай гісторыі персанажы: Мар'я — маці Алены (артыстка Мая Булгакава) і старшыня сельсавета Міхалевіч (артыст Барыс Уладамірскі).

— Слушная заўвага, пагледзіце, які ў фільме Аляксей — Маразенка, — падтрымлівае гэтую думку В. Смаль. — Звернем увагу хоць бы на этычны бок паводзін героя: ці мае права наогул чалавек умешвацца ў чужое асабістае жыццё? Калі аўтары лічаць, што мае, гэта трэба па-мастацку абгрунтаваць! Што датычыцца антыпода Аляксея — Венькі (артыст Аляксандр Галеўскі), аўтары не пашкадавалі для яго чорнай фарбы. Ён і анекдоты непрыстойныя расказвае, і да кожнай дзяўчыны заляцаецца. Адну нават з дзіцем кінуў у Мурманску, а пашпарт у яго — «чысты»... І такога закончанага пашляка і распусніка кахае «ідэальная», як яе малююць на экране, ва ўсіх адносінах гераіня. Хацелася б, каб аўтары і артыст хоць неяк паспрабавалі растлумачыць гледачам, чым ён яе прывабіў...

— Здаецца, ні адной светлай рысачкі не засталося для Венькі, бо ўсе ружовабlакітныя фарбы пайшлі на гераіню,— працягвае размову кандыдат мастацтвазнаўства В. Нячай. — Аленка (артыстка Энекен Прыкс) — нібы бляклы цень «вядзьмаркі», сыгранай у свой час Марынай Уладзі, але без яе тэмпераменту і абаяльнасці. Што, аўтары далі яшчэ адну варыяцыю на «пейзанскую» тэму? Гераіня з яе элегантнай сталічнай прычоскай і туалетамі ад «мінскага Дыёра» — дэкаратыўная аздоба фільма. Поўную адсутнасць характару, пачуцця і думкі яна імкнецца кампенсаваць дэманстрацыяй сваіх знешніх дадзеных. Актрыса пастаўлена ва ўмовы, дзе яна вымушана быць нібы манекеншчыцай... Калі ні адну акцёрскую работу выканаўцаў галоўных роляў нельга прызнаць удалай, — тым больш незразумела, для чаго спатрэбілася рэжысёру «выпісваць» іх з іншых рэспублік. У цітрах фільма можна прачытаць імёны беларускіх акцёраў Паўла Кармуніна, Аўгуста Мілаванава, Барыса Уладамірскага, якіх глядач палюбіў па выдатных ролях на тэатральнай сцэне. Аднак акцёраў нашай рэспублікі па існуючай на студыі трывалай традыцыі запрасілі, як звычайна, на эпізоды...

Удзельнікі абмеркавання аднадушна адзначылі ўдалыя натурныя здымкі (разводдзе на Палессі), знятыя аператарам Алегам Аўдзеевым.

— Калі глядзіш на харaство і веліч прыроды, — зазначыў І. Рэзнік, адчуваеш, якія самабытныя цікавыя героі маглі б насяліць фільм, дзеянне якога разгортваецца ў тых мясцінах. Героі ж «Неспадзяванага кахання» не нясуць ніякіх нацыянальных адзнак, яны маглі б дзейнічаць з такім жа поспехам на фоне венецыянскіх каналаў альбо канадскіх азёраў...

— У фільме ёсць удалыя масавыя сцэны, у якіх здымаліся мясцовыя жыхары, — гаворыць В. Нячай. — Іх тыпаж, адзенне, натуральная манера паводзін рэзка кантрастуюць з кінематаграфічным лубком. Супастаўленне жыхароў Палесся з акцёрамі яўна не на карысць апошніх.

— Натуральна ўспрымаць фільм з першых жа кадраў перашкаджае мова герояў, — працягвае прамоўца. — Мабыць, для таго, каб надаць усяму «палескі каларыт», аўтары прымусілі акцёраў гаварыць з нейкім дзіўным акцэнтам. Штучна ўведзеныя ў рускую гаворку «беларусізмы» недарэчныя ні з пункту гледжання лексікі, ні фанетыкі. Скажонае, скалечанае вымаўленне слоў сведчыць толькі пра адсутнасць густу і павагі да мовы ў кінематаграфічным творы.

Амаль усе ўдзельнікі абмеркавання закранулі і так званую «праблему гледача». Агульнай была думка, што нават калі касавыя зборы «Неспадзяванае каханне» забяспечыць і карціна знойдзе сваю аўдыторыю (для чаго дастаткова хаця б слова «каханне» ў назве стужкі), гэта не можа суняць трывогі за якасць чарговых стужак. Тым больш, што гэта не першы выпадак, калі студыя запускае ў вытворчасць фільмы па слабых літаратурных сцэнарыях. І здзівіла прызнанне аўтараў у тым, што яны і не імкнуліся да нейкага глыбокага вырашэння жыццёвых праблем.

— Тэма гэта не мая, — сказаў Фёдар Конеў.—Сцэнарый напісаў Генадзь Бекарэвіч, а мне далі яго толькі дапрацаваць. Чаму я згадзіўся «дацягваць» рукапіс? Мне спадабалася, што дзеянне адбываецца на вадзе. Вабіла магчымасць цікава паказаць народныя ігрышчы. Праўда, у фільме гэта не атрымалася. Лічу, што рэжысёра вельмі падвялі акцёры. Яны не здолелі данесці да гледача тое, аб чым мы збіраліся сказаць ва ўвесь голас. Жанр фільма сапраўды не акрэслены. Але, мне здаецца, намер зрабіць нешта накшталт прытчы з павучэннем нам удаўся...

— Мы бачылі, што ў сцэнарыі няма нейкіх глабальных праблем, — зазначыў рэдактар студыі М. Фрайман, — і таму прасілі рэжысёра рабіць фільм у больш лёгкім ключы. Але камедыя — не той жанр, які адпавядае творчым схільнасцям Шульмана. Ад рэдактараў жа не так многа залежыць пры вызначэнні жанру і стылістыкі стужкі.

— Я згодзен, што ў фільме адчуваецца тое, што называюць лакіровачным глянцам, — сказаў І. Шульман.— Але мне здаецца, што тут ён часам і патрэбны. Мо', таму я і вырашыў карціну ў колеры, хаця раней лічыў, што ён мне супрацьпаказаны.

Пагадзіўшыся з асноўнымі прынцыповымі заўвагамі ў адрас фільма, І. Шульман спаслаўся на неспрыяльныя ўмовы працы: паспешлівая перапрацоўка недасканалага сцэнарыя, тэрміновая замена акцёраў перад самымі здымкамі, вытворчая неабходнасць зрабіць фільм у сціслы тэрмін, пакуль на Палессі не сышла вада, і г. д.

Аб вялікай карысці, якую прыносяць кінематаграфістам абмеркаванні іх новых работ, гаварыў рэжысёр Ігар Дабралюбаў. На жаль, сам ён не сказаў нічога аб новым фільме, паабяцаўшы прааналізаваць яго ў асабістай гутарцы з І. Шульманам. Вельмі слушнай была заўвага І. Дабралюбава аб тым, што абмеркаванне фільмаў трэба праводзіць на больш ранняй стадыі кінематаграфічнага працэсу.

Як паказвае практыка, асноўная прычына няўдач шэрагу карцін з маркай студыі «Беларусьфільм», выпушчаных у апошні час, — слабая драматургія. Таму размова аб «Неспадзяваным каханні» перарасла рамкі аналізу канкрэтнага твора.

— Я не магу зразумець, чаму на пасяджэннях творчых секцый Саюза кінематаграфістаў Беларусі не абмяркоўваюцца літаратурныя сцэнарыі, што запускаюцца ў вытворчасць, — сказаў В. Смаль. — Склалася такое становішча, што, пэўна, лягчэй выкрасці сакрэтную паперу з сейфа, чым пазнаёміцца з новым сцэнарыем. Гэта не на карысць ні тэорыі, ні практыцы нашага нацыянальнага кінамастацтва.

Яго падтрымаў сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР В. Смоляр:

— У тэатры п'еса іграецца шмат разоў, і з кожным разам яна ўдасканальваецца. Фільм жа ставіцца адзін раз. І калі ён выпушчаны на экраны, у ім нічога нельга змяніць. Тым большая патрэба ў мастацкай завершанасці літаратурнай першакрыніцы — сцэнарыя.

Абмеркаванне «Наспадзяванага кахання» паказала яшчэ і тое, што ў такіх мерапрыемствах удзельнічае вузкае кола людзей. Міжволі думаеш: ці не гаворыць гэта пра атмасферу абыякавасці некаторых адказных работнікаў студыі да творчасці калег? Пагаварыць пра «Неспадзяванае каханне» не прыйшла большасць удзельнікаў здымачнай групы!

І ўсё ж спрэчкі ў Доме кіно прынясуць пэўную карысць аўтарам новай стужкі: яны больш патрабавальна ацэняць свой твор і пасля выхаду яго на экран.

А. ЛАБОВІЧ

# АМНІСТАВАЦЬ МОЖНА НЕ ЗАЎЖДЫ!

**КАМЕДЫЯ «АМНІСТЫЯ» М. МАТУКОЎСКАГА У АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ Я. КУПАЛЫ**

НА СЦЭНЕ не зусім звычайная дэкарацыя. Гэта іранічна падкрэслены дзіцячы свет цацак — кубікі, «мяккія» звяры, танкі... Пад гукі танцавальнай мелодыі на авансцэну выходзяць героі спектакля — моладзь фабрыкі цацак, якой кіруе Якаў Фаміч Добрых.

Раптам лагодна-ласкавы настрой змяняецца трывогай. Дырэктар фабрыкі выклікае галоўнага канструктара і намесніка ў адной асобе — Рагнеду Іванаўну Божашуткаву. Якая прыкрая навіна — рабочы Салавейчык за хуліганства затрыманы міліцыяй і сядзіць у КаПэЗэ... З гэтага, уласна, пачынаецца драматургічнае дзеянне камедыі «Амністыя».

Незвычайнае здарэнне! Алярм!

По добраму традыцыйны і жыццёва верагодны пачатак камедыйнай гісторыі. Ёсць у гэтым нешта ад вядомага «Да нас едзе рэвізор!» або «Прысыпкін жэніцца!» Рагнеда Божашуткава з камедыі М. Матукоўскага пасвойму рэагуе на гэтую вестку — Салавейчык за кратамі! Яго трэба ратаваць! Бо гэта мы, калектыў, вінаватыя, што не выхавалі яго, а ён, такі малады і прыгожы, варты таго, каб з яго зрабіць узорнага рабочага фабрыкі! Камедыйныя колы закруціліся. Дэмагогія Рагнеды Іванаўны, якую так дакладна, з трапным «пападаннем» у ролю іграе З. Браварская, — рухаючая спружына імклівай інтрыгі камедыі. І яна не толькі смешная, яе падмацаваная спасылкамі на правільныя маральныя нормы нашага грамадства дэмагогія, а страшная, калі бярэ верх над цвярозым роздумам пра такіх салавейчыкаў. Нахабны і хітры прыстасаванец, ён сядзе вам на карак і будзе адваёўваць пазіцыі — ад асобага станка ў цэху (з асабістым, салавейчыкавым тэлефонам!) да паездкі ў замежныя краіны. Здаецца, у яго вуснах словы пра тое, што ён, Рыгор Салавейчык, — «прадстаўнік рабочага класа», фатальна гіпнатызуюць тых, хто павінен быў пакараць хулігана. А яны бянтэжацца, лічаць, што і сапраўды з такім тыпам трэба абыходзіцца далікатна, ды яшчэ Рагнеда Іванаўна на кожным кроку крычыць: чалавек чалавеку друг, таварыш і брат!..

І таварыскі суд разглядае справу братэльніка. Большасць настроена змагацца за Салавейчыка, ханжыць, крывадушнічаць і... ратаваць. Ігра купалаўцаў адразу захапляе шчырай, эмацыянальнай дзейнасцю кожнага з персанажаў — акцёрам ёсць што рабіць на сцэне. Яны паказваюць, у што выліваецца ўяўнае змаганне за чалавечую годнасць. На працягу ўсяго дзеяння тэатр без рыторыкі праводзіць вельмі важную думку — любая добрая ідэя (ці справа) можа быць дыскрэдытавана, калі давесці яе да абсурду.

Гэта і адбываецца ў судзе. Салавейчык, якога іграе В. Тарасаў, спакваля пачынае знешне груба, а па сутнасці вельмі тонка падыгрываць Рагнедзе Іванаўне — так, ён таварыш і брат кожнаму, ён не збіраўся абражаць чалавека ў акулярах, ён толькі з сякерай ламіўся ў яго кватэру, а той з-за дзвярэй пагражаў яму міліцыяй, ну, а тады...

Салавейчык не толькі рэабілітаваны — ён пераможца, ён абвінавачвае. Яго нахабства, падагрэтае даверлівай дурасцю арганізатараў гэтага ганебнага відовішча, узведзена ў прынцып дзеяння. Хулігану далі ў рукі зброю, якой ён потым будзе тэрарызаваць і шантажыраваць увесь калектыў.

Сцэна суда мае прынцыпова важнае значэнне для ўсяго спектакля. Асабліва для выканаўцы ролі Салавейчыка В. Тарасава. «Грыша», як сейсмограф, адчувае настрой асяроддзя, у якім ён жыве. Спачатку толькі слухае, наіўна бянтэжыцца, нават паказвае, як сорамна яму за непрыгожыя ўчынкі, пасля нахабіцца і сам прымае позу пакрыўджанага. У ігры акцёра ўсё правільна — па думцы, у сродках сцэнічнага выяўлення, у эмацыянальным напале, але... Гэта «але» датычыць тых момантаў, дзе В. Тарасаву не хапае сатырычнай завостранасці, нейкай унутранай акцёрскай злосці. Акцёр часцей за ўсё застаецца ўнутрана «над вобразам», паказвае, які мярзотнік яго герой, а не становіцца ім. Мабыць, яму яшчэ прадстаіць пашукаць нешта для таго, каб цалкам пераўвасобіцца ў Салавейчыка, як гэта рабіў, скажам, І. Ільінскі ў Прысыпкіне або Ул. Уладамірскі ў Мурзавецкім, Б. Платонаў у Зёлкіне ці Л. Рахленка ў Гарлахвацкім. Рыгор Салавейчык — не прыватная з'ява, а пэўны мастацкі тып, і тут дарэчы самыя смелыя акцёрскія фарбы.

Напрыклад, і ў сцэне, калі прадстаўнікі фабрыкі прыходзяць у яго дом адсвяткаваць дзень нараджэння. Яго раз'юшаны крык: «Зойка, стрыптыз!» — гэта ж апагей хамства, праява жывёльнага інстынкту, замаскіраванага дэмагогіяй пра «свабоду нораваў». А ў В. Тарасава тут толькі выбух падпітага гаспадара кватэры. Баяцца гратэску ў такой сатырычнай камедыі, як «Амністыя», не трэба.

Мабыць, ад крыху па-акцёрску прыземленага Салавейчыка ідзе скаванасць Н. Піскаровай у ролі антыпода гэтага персанажа — Ізабелы Дрозд. Актрыса выкрывае праціўніка і адстойвае сапраўдныя каштоўнасці гераіні спектакля пераважна тым, што фарсіруе голас амаль да крыку: «Я не згодна!», «Я пратэстую!» — і ўнутранае багацце станоўчага вобраза ў камедыі драбнее. Нават самае дарагое для Дрозд — клопат пра тое, каб мільёны савецкіх дзяцей мелі добрыя цацкі («не горш за аўтамашыны для дарослых!») — гучыць у Н. Піскаровай толькі яшчэ адным аргументам у службовых спрэчках з Рагнедай Божашуткавай. Гераіня ўспамінае сваё цяжкае дзяцінства, сваё жыццё ў дзіцячым доме, калі з лялькай, адзінай лялькай, гулялі па чарзе. Гэты маналог напісаны М. Матукоўскім вельмі пераканаўча па думцы, але на сцэне ён быў бы больш выразны, калі б актрыса не пачынала з верхняй ноты, а раскрыла дынаміку думкі, эмацыянальнае развіццё яе.

Шкада, што наогул і ў «Амністыі», як гэта было ў папярэдніх прэм'ерах купалаўскай трупы, акцёрская моладзь не ўзнімаецца вышэй добрасумленнага выканання роляў. У яркай масоўцы «клакераў на таварыскім судзе» (так яны названы аўтарам п'есы) артыстычна кідка, смела іграе вопытная А. Рынковіч. Філігранна адточаны дэталі ў сцэнічным партрэце Сцепаніды Моўчан Б. Дакальскай, якую тут можна назваць майстрам эпізода! І побач з імі аўтаматычнымі выканаўцамі волі драматурга і рэжысёра выглядаюць М. Казінін (Андрэй Таратута) і В. Анісенка (Кузьма Хаценьчык). Калі першы занадта скаваны ў паводзінах, другі, здаецца, і не сочыць за сваёй жэстыкуляцыяй і ўвесь час гаворыць аднолькава гучна, без нюансаў, — і персанажы атрымліваюцца на дзіва просталінейнымі, аднастайнымі. Без адчування жанру спектакля іграюць Т. Кротава і А. Доўгая (Тамара Мажэйка і Зойка Гусельнікава): яны быццам завіталі ў камедыю са звычайнай бытавой п'есы пра моладзь.

Звяртаеш на гэта ўвагу, бо агульная плынь «Амністыі» на сцэне захапляе залу суладдзем паміж аўтарскай задумай і рэжысёрскім «бачаннем» адлюстраванага М. Матукоўскім жыцця, дакладным жанравым малюнкам відовішча. У такім разе і «агрэхі» кідаюцца ў вочы, нават самыя нязначныя, другарадныя.

Купалаўцы заўсёды славіліся сваім акцёрскім ансамблем. У «Амністыі» сустрэліся артысты розных пакаленняў, розных школ. Пераважная большасць выканаўцаў працуе ў адным творчым ключы. Галоўная заслуга тут рэжысёра спектакля Ц. Кандрашова (яму асісціравала Г. Уладамірская) — ён вынаходліва будуе мізансцэны, стварае патрэбную для камедыі атмасферу (назаву выразную каларытную групу «клакераў на таварыскім судзе», іх арыгінальную рэакцыю; цікавы праход гасцей на дзень нараджэння Салавейчыка; выхад Божашуткавай з кабінета Ягадкі пад гукі «Цыганачкі» і іншыя эпізоды), дзея развіваецца ў імклівым рытме, весела, без штучных націскаў-акцэнтаў.

У агульнай гумарыстычнай афарбоўцы пастаноўкі немалая роля належыць старшыні фабкома ў бліскучым выкананні П. Кармуніна. Здавалася б, даволі банальны, знаёмы ў тэатры персанаж прафсаюзнага дзеяча, якому мала дадзена, але з якога многа патрабуецца. Акцёр у звычайнасці фігуры якраз і раскрыў драматызм сітуацыі, у якой апынуўся гэты добры, пакладзісты дзядзька. Узяты на парукі і апраўданы таварыскім судом Салавейчык пачынае тэрарызаваць фабрыку і перш-наперш старшыню фабкома Кічкайлу. Іграе П. Кармунін, амаль ні разу не ўсміхнуўшыся. Наадварот, на яго твары часцей даверлівая разгубленасць. І нават адчай. І гэта весела... І сумна. Бо харошы чалавек траціць аблічча з-за сваёй гатоўнасці механічна выконваць дэмагагічныя заклікі Рагнеды Іванаўны. Надзвычай «па-купалаўску» іграецца сцэна ў спектаклі, дзе П. Кармунін ставіць свайго героя перад адказным работнікам Варварай Феафілаўнай Ягадкай, якой даручана даследаваць справу.

Ягадка купаецца ў мутнай вадзе інтрыг і хітрыкаў Салавейчыка — Божашуткавай, распытвае, просіць удакладніць падрабязнасці — хто і што спяваў, колькі пілі, якія «вершыкі» чыталі... Спачатку здаецца, што гэта не такая ўжо дурная асоба «з чыноўнікаў у спадніцы». А ў размове з дырэктарам Добрых нават дэманструе «разуменне» нікчэмных пасквілянцкіх даносаў, але зноў жа распытвае з цікаўнасцю пляткаркі — пра жанчын, пра інтымны бок жыцця гэтага ста-

Т. ШЧАРБАКОВА

# САЮЗНІЦА СЛОВА І РУХУ

*НАТАТКІ АБ МУЗЫЦЫ Я. ГЛЕБАВА ДА ДРАМАТЫЧНЫХ СПЕКТАКЛЯЎ*

«Людзей на балоце» ў купалаўцаў гледачы (хочацца сказаць, і слухачы) любяць таму, што вераць праўдзе жыцця, адгукаюцца на яе сэрцам. Таму, што за верагоднасцю дэталяў быту, за скупымі словамі літаратурнага матэрыялу Івана Мележа гучыць музыка вялікіх страсцей. Яны сплятаюцца ў тугія вузлы драмы...

Надзвычай прыгожая і моцная па тоне тэма нешматслоўнага кахання Ганны і Васіля. Своеасаблівая музыка мары аб шчасці праціпае бязрадасны побыт «балотных» людзей нервам сапраўднай рамантыкі. Гэта вымагае і спецыяльнага музычнага вырашэння. Іменна яе, паэтычную песню светлых летуценняў, і ўзмацняе ў спектаклі кампазітар Яўген Глебаў.

Асноўны матыў музычнага рашэння «Людзей на балоце» — спачуванне чалавеку ў яго цяжкіх пошуках праўды ў людзях і ў сабе самім. Кампазітар адліў у асязальныя гукавыя формы лірычны падтэкст інсцэніраванага рамана, асабліва падкрэсліўшы напружана вібрыруючыя сумна-паэтычныя яго ноты.

Мне падумалася нават, што музыка, якую магнітная стужка пасылае ў глядзельную залу, прапушчана праз успрыняцце аднаго героя гэтай драмы — Васіля. Так кампазітар арганічна робіцца сарэжысёрам спектакля, і яго работа дапамагае надаць інсцэніроўцы драматургічную і канструкцыйную цэласнасць.

Выразнасць музычнай формы гэтага спектакля абумоўлена перш за ўсё супадзеннем літаратурнага матэрыялу і асаблівасцей таленту кампазітара, яго схільнасці да раскрыцця лірыка-псіхалагічных уласцівасцей вобраза. Глебаў дасягае гэтага ў «Людзях на балоце» з дапамогай спалучэння народна-песеннага матэрыялу і сваёй музыкі. Тут удала ўводзяцца фрагменты з сімфанічных твораў А. Скрабіна. Сумяшчаюцца нібыта «рэчы несумяшчальныя», аднак стылявой супярэчнасці не ўзнікае. Кампазітар адчувае асаблівасці музыкі Скрабіна і ўмела выкарыстоўвае выяўленчыя магчымасці кантрасту.

Народныя жартоўныя і каляндарна-абрадавыя песні адцяняюць падзеі драмы і нярэдка становяцца фонам або кантраснай праслойкай ва ўласна лірычнай музычнай тканіне спектакля. Многія сольныя і харавыя беларускія песні ў «мінімальнай» апрацоўцы выконваюцца купалаўцамі з густам, характэрна, амаль этнаграфічна.

Успомнім першую карціну. Двойчы гучаць тут народныя песні, а драматургічны эфект іх выкарыстання розны. Заліты сонцам бяскрайні луг. Запалоханы, крыўдлівы Васіль зрэдку паглядае на Ганну, быццам саграваецца пад яе позіркам. Струнныя мякка, «паўшэптам» напяваюць прыгожую тэму варыяцый з другой часткі фартэпіяннага канцэрта Скрабіна.

На нашу думку, і такі «цытатны» музычны пераход абгрунтаваны — відаць, дух драматычнага эпізода і мог быць перададзены трапяткім выказваннем скрабінскай музыкі з філасофскім ухілам. Праўда, і сам Я. Глебаў меў магчымасць даць тут нешта сваё. Але і «чужой» такая цытата не выглядае. Яе прымаеш цалкам.

Галасы жанчын, якія зацягнулі ўдалечыні песню, па-свойму паглыбляюць ціхі смутак аркестравай музыкі і нібы асвятляюць лірычным святлом знешне абыякавую Ганну. Хвацкая ж песня Яўхіма дысаніруе з гарманічнай і пяшчотнай музыкай нясмелага кахання.

Кантраст бытавога і лірычнага асабліва відавочны ў сцэне расстання Ганны з воляй, мілай вярбой і месячнай ноччу. Змрочную музыку струнных адсоўваюць фразы вясельнай песні. Узнікае змястоўны вобразны кантрапункт. Драматызм таго, што адбываецца, паглыблены музычна.

Ёсць у спектаклі яшчэ адзін па-свойму выразны пласт музыкі — ідылічна празрыстыя лірыка-пейзажныя замалёўкі. Як пяшчотна і чыста гучыць дуэт флейты і кларнета ў пачатку другога акта! Гэтая беларуская пастараль вобразна-кантрастная бачнаму дзеянню — сцэнам Ганны з Яўхімам і з Васілём.

Найбольш драматургічна дзейсным элементам музычнага афармлення аказваецца экспрэсіўная лірыка. У кожным з трох актаў ёсць свая лірычная кульмінацыя. Так, завастраючы кантрасты, Глебаў стварае трагедыйнае гучанне ў сцэне забойства Грыбка. Празрыстая музыка ляснога шэлесту з пералівамі птушыных галасоў папярэднічае сцэне зверскай расправы, якая ўзрушае да глыбіні душы Васіля — міжвольнага сведку злачынства. Вынікам сцэны сталі пераўвасабленне акварэльнай пейзажнай тэмы ў вострыя гукі скрыпак у высокім рэгістры. Пачуццё непапраўнасці таго, што адбылося, пакутлівы душэўны боль Васіля выліваецца ў гэтым кульмінацыйным эпізодзе не словам, а музыкай. Другая ярка экспрэсіўная кульмінацыя спектакля — сцэна просьбы Васіля аб перадзеле зямлі і яго бунт. Кампазітар увёў тут журботна-ўзвышаныя гучанні ў класічным стылі і супаставіў іх з зацянёнай музыкай Скрабіна. У трэцяй дзеі, дзе найбольш актыўна развіваецца вобраз Ганны, з'яўляюцца дзве новыя ў спектаклі лірычныя тэмы — фрагмент з 3-й сімфоніі Глебава, які ўдала раскрывае сэнс таго, што адбываецца (Ганна над магілай дачкі), і бурная, з глыбокімі інтанацыямі пратэсту і самасцвярджэння музыка Скрабіна (адыход Ганны). Іменна гэты эпізод і становіцца генеральнай кульмінацыяй спектакля.

Спецыфічная рэжысура кампазітара ў «Людзях на балоце» наклала адбітак і на кінематаграфічна рухомую форму інсцэніроўкі. Глебаў супрацьпастаўляе і аб'ядноўвае сцэны, карціны, ахоплівае ўвесь твор некалькімі лейттэмамі (асабліва яркія акцэнты перададзены аркестравым сола з фартэпіяннага канцэрта Скрабіна).

Можна і далей аналізаваць па-свойму цэласную музычную форму спектакля, якая стала адным з галоўных яго драматургічных кампанентаў. Музыка, развіваючы тэкставае багацце, адлюстравала жыццёвую аб'ёмнасць літаратурнай першаасновы, удала яе дапоўніла.

У музыцы Я. Глебава да спектакля «Юнацтва рыцара» па п'есе В. Зуба ў тэатры юнага гледача, на мой погляд, адчуваеш прыблізна такі ж падыход кампазітара да сваёй задачы ў драматычным тэатры. Праўда, вынік атрымаўся зусім іншы. Прычына, на маю думку, у п'есе — малазмястоўнай, з вялым тэмпам дзеяння, са схематызаванымі характарамі (асабліва бедныя жаночыя вобразы). Таму і музыка выглядае будзённай, нейкай нейтральнай, малавыразнай. Драматург дае ілюстрацыі да пэўных старонак біяграфіі героя. І тое, што нам вядома па літаратуры, паўтараецца ў дыялогах, напісаных не вельмі выразна, без вобразнага асэнсавання рэальнага жыцця.

Праўда, мушу сказаць, што цалкам тлумачыць невыразную музыку ў драматычным спектаклі толькі якасцю п'есы не зусім справядліва. У скарбніцы сусветнай музычнай культуры ёсць прыклады, якія сведчаць, што кампазітарская партытура жыве і пасля таго, як драма або камедыя, да якой пісалася музыка, адышла ў нябыт. Больш таго, у дадзеным выпадку сам вобраз Дзяржынскага мог абудзіць у аўтара музыкі больш яркія творчыя шуканні. Хаця, вядома, ад літаратурнай першакрыніцы многае залежыць.

У музычнай партытуры спектакля «Юнацтва рыцара» ёсць, здавалася б, музычная характарыстыка Фелікса Дзяржынскага. Песенная тэма кларнета раскрывае лірычныя бакі вобраза — летуценнасць, любоў да маці, да роднага краю. Супастаўленне рэ-мінорнай такаты Баха і напружанага гучання струнных у духу Шастаковіча прызначана для таго, каб раскрыць душэўную барацьбу юнака ў момант

З пошты ЛіМа

# З ДУМКАЙ ПРА БУДУЧАЕ

Генадзь КАХАНОЎСКІ,
намеснік дырэктара Мінскага абласнога краязнаўчага музея

ПРАЧЫТАЎ я артыкул Адама Мальдзіса «Сляды продкаў» і задумаўся. Не адразу ўзяўся за пяро, спачатку для сябе тое-сёе памячаў. Цікавыя першыя два раздзелы, а вось квінтэсенцыя ўсёй справы здорава схоплена ў трэцім — густым і жывым раздзеле. Мог бы аўтар яшчэ тое-сёе сказаць з гісторыі беларускіх музеяў, але дзякуй яму і за гэта: усё ж ён не музейшчык, а вучоны, пісьменнік.

«ЛіМ» нібы згаварыўся з «Известиями» даць матэрыялы на музейную тэматыку. Памятаеце, артыкул «Золотая одиссея», змешчаны ў нумарах за 22 і 23 кастрычніка 1970 года. І там, і ў «Слядах продкаў» — клопат пра музеі, пра іх экспанаты. Аўтар «ізвесцінскага» артыкула расказвае пра вандраванні залатога фонду Цэнтральнага гістарычнага музея Кіева, перажыванні былога дырэктара Івана Васільевіча Бондара, дарэшты змарнаванага гісторыяй прапаўшых унікальных экспанатаў і, нарэшце, судовым следствам. Толькі вера ў праўду падтрымала сілы патрыёта, не збаяўся ён тых грахоў, у якіх яго абвінавачвалі.

Ёсць добры прыклад патрыятызму і сярод нашых беларускіх музейшчыкаў. Аб гэтым, мусіць, маглі б расказаць старэйшыя супрацоўнікі Гродзенскага гісторыка - археалагічнага музея. У пачатку Айчыннай вайны многія каштоўныя экспанаты яны разабралі па дамах, захоўвалі ўсю вайну, каб пазней пакласці ў экспазіцыю роднага музея, вярнуць іх на ранейшае месца. Ці гісторыя са Слонімскім музеем і яго дырэктарам І. Стаброўскім. Колькі гадоў аддаў чалавек стварэнню музея, як самаадданa служыў любімай справе!

Гродна не Магілёў. Кожны ведае, калі было захоплена Гродна і калі Магілёў. Чытаеш артыкул Адама Мальдзіса і дзіву даешся, як жа так здарылася, каб унікумы, я ўжо не гавару пра залатыя рэчы, маглі дастацца ворагам, а ад іх паплылі за акіян. Трошкі сорамна за сваіх старэйшых калег - музейшчыкаў, што ў той, хоць і нялёгкі час, яны не ўсё зрабілі, каб зберагчы такія каштоўнасці. Думаю, што кожны работнік музея, кожны савецкі чалавек скажа ў падтрымку аўтара: «Нацыянальныя рэліквіі павінны быць вернуты яе законнаму ўладальніку — беларускаму народу!»

Спадзяёмся мы і на дабрачынства і высакародства нашых суседзяў — народаў, у фондах чыіх музеяў і сховішчаў да сённяшняга дня стаяць на ўліку экспанаты беларускага паходжання.

Гэта пра экспанаты, якіх не далічылася Беларусь за вайну. А колькі іх загінула і гіне пасля вайны ўжо толькі па нашай віне. Нешта мітусліва шукаем, таропка збіраем і тут жа чуем, што нешта яшчэ больш важнае прападае. Адны нашы музеі абураюцца іншымі: з-пад носа выхопваюць экспанаты! Але я не пра гэта, бо яно не так і страшнае. Зрэшты ж, экспанат так ці інакш трапляе ў нашы музеі, яму прысвойваецца дзяржаўны нумар. Я пра тыя экспанаты, якія з-за нашага недагляду гінуць. Такіх прыкладаў многа. Нядаўна супрацоўнік нашага музея, будучы ў Стаўбцоўскім раёне, убачыў драўляную скульптуру XVII—XVIII стагоддзяў. Другі раз паехаў на машыне, каб прывезці ў музей. І прывёз... без галавы, без рук, з адламанымі нагамі. Пазабаўляўся нехта з «культурных» турыстаў - вандалаў. А ў мясцовым сельсавеце замест таго, каб загадзя прыняць нейкія меры, паказаць музею іншыя рэчы, праявілі поўную абыякавасць.

Або другі прыклад. У Маладзечанскім раёне каля Хоўхлава недзе з XVI стагоддзя стаяла культавая групавая скульптура, якую выразаў з пня тоўстага дрэва невядомы майстар. Па водгуках мясцовых людзей, яна была зроблена з добрым мастацкім густам. Прастаяла з часоў Сымона Буднага, і на табе — ссеклі і завезлі на ферму на распал. Я памятаю, як абуралася дырэктар мастацкага музея БССР Алена Аладава (мы тады разам ездзілі, каб забраць для музея) гэтым фактам, які нічога агульнага не мае з сапраўднай барацьбой з рэлігіяй.

У апошнія гады асабліва адчулася паляванне за старымі, асабліва культавымі рэчамі — падсвечнікамі, абразамі, распяццямі ў капліцах і касцёлах. Часам аматары нажывы нахабна заяўляюцца ў музеі, каб вытаргаваць што-небудзь з такіх каштоўнасцяў. Хтосьці і да мяне аднойчы адрасаваў нейкага дацэнта ажно з Пярмі — хацеў той разжыцца на арыгінальны царкоўны крыж. Бачыце, ён іх калекцыяніруе. На Беларусі, кажа, яшчэ не вельмі цікавяцца старасвеччынай, і ён спадзяваўся сёе-тое ўпаляваць. Прычым, нанёс ён візіты не толькі ў Маладзечна. Калі з нашага музея ён нічога не вывез, то недзе нешта ўсё-такі выклянчыў.

У сувязі з артыкулам Мальдзіса ўспомніўся яшчэ адзін прыкры факт. Больш трох стагоддзяў стаяла драўляная царква ў вёсцы Насілава Маладзечанскага раёна. Мела яна свае багатыя архівы, бібліятэку, дзе былі не толькі рэлігійнага зместу кнігі і дакументы, але і свецкія. Нехта Раскін аддаў указанне царкву разбурыць, а ўсё астатняе — згрузіць на падводы, вывезці і знішчыць. Пра гэта мне з абурэннем расказваў выдавочца, паэт Рыгор Семашкевіч. Можа, там не загінулі рукапісы, якія ездзіў шукаць А. Мальдзіс у Львоў і Вільнюс, але загінула нешта іншае, і таксама каштоўнае.

Пасля таго, як быў закрыты бяздзейны касцёл у Гародзьках, тамтэйшы жыхар М. Станкевіч прынёс у наш музей разрозненыя дакументы. Цяпер гэтыя дакументы мінулых стагоддзяў увайшлі ў экспазіцыю нашага музея. Яны вельмі добра раскрываюць сацыяльны бок жыцця простага люду, іх бяссілле перад усемагутнымі феадаламі. А маглі б загінуць і гэтыя дакументы.

Зразумела, многа промахаў зрабілі музеі, але яшчэ больш прамахнуліся нашы дзяржаўныя архівы. Чаму б ім было своечасова не ўзяць на ўлік усе царкоўныя і касцёльныя архівы? Хто можа пэўна сказаць, што не знішчаны цэлыя тамы літаратурных помнікаў мінулых стагоддзяў? Ці не самі сябе мы падкузьмілі, пазбавілі нашых вучоных велізарных скарбаў?

Некалькі гадоў назад я быў у камандзіроўцы ў Беразіне. Там мне параілі зайці да мясцовага бацюшкі, у якога шмат старыны. Пайшоў да яго з тамашнім настаўнікам.

— А дзе ж вы раней былі? Я служыў у Клецкім раёне, у Зубках. Адтуль прывёз з сабой нейкую старажытную кнігу, напісаную ад рукі, вагой восем кілаграмаў. Я адчуваў, што яна мае навуковае значэнне. Я пра гэта паведаміў Акадэміі навук БССР. Там чамусьці аднесліся абыякава, і я праз нейкі час паслаў кнігу ў Загорскую духоўную акадэмію.

Мае рацыю Адам Мальдзіс, калі ўзяўся за вывучэнне «беднага» XVIII стагоддзя. Не магло быць, каб вакол Беларусі тварылі славутыя людзі, а ў нас панавала суцэльная цемрадзь. А вось жа зацвердзілася думка, пераходзіла ад аднаго пакалення вучоных да другога, быццам і шукаць не варта! Бязглуздасць такога сцвярджэння яўная. Вучоныя абвяргаюць яго. Хіба не ўнеслі прасвятленне сваімі нядаўнімі адкрыццямі Адам Мальдзіс і Сцяпан Міско? Так і цепліцца прыемная думка, што неўзабаве будзем мець, на першы выпадак, аднатомнік мастацкіх твораў беларускай літаратуры XVIII стагоддзя. Не ўсё ж знішчылі езуіты ў часы заняпаду беларускага краю!

Але вернемся да музеяў. А. Мальдзіс расказвае пра агрэхі ў рабоце Слуцкага музея. Скажу нават больш — не ўсе заўважыў аўтар. Але ж і гэты музей не самы горшы ў Мінскай вобласці, ёсць, на вялікі жаль, яшчэ горшыя. Я гэтым самым зусім не заступаюся за случакоў.

Усе беды з-за таго, што кепскія кадры. Хто прыйшоў у музейныя святыні на работу? Дзе рыхтуюцца для іх навуковыя супрацоўнікі? Гэта праблема актуальная не толькі для Беларусі. Ёсць адзін на ўвесь Савецкі Саюз навукова-даследчы інстытут музеязнаўства. Ніводнага факультэта ці нават аддзялення няма ў іншых вну. Сапраўдныя музейныя асы мне могуць запярэчыць, што, нават каб былі ў нас спецыяльныя вну, і то не кожны іх выпускнік здольны працаваць у музеях. Сапраўды, добрыя краязнаўцы маюць нешта прыроджанае, яны прыходзяць у музей праз любоў да роднага краю. Канцылярыстаў і аб'езчыкаў музеям не трэба, патрэбны сапраўдныя скрупулёзныя шукальнікі і даследчыкі з творчым парывам.

Нягледзячы ні на якія цяжкасці, варта было б адкрыць у Беларусі, хаця б пры гістарычным факультэце БДУ, аддзяленне краязнаўства. Чаму б Беларусі не стаяць у гэтай справе першай? Тым больш, што якраз нашай рэспубліцы найбольш і патрэбны добрыя кадры. Калі ж такая вну адкрыецца ў іншым горадзе Савецкага Саюза, то варта туды дэлегаваць сваіх студэнтаў, каб яны, закончыўшы яе, маглі вярнуцца на Беларусь. На гэтым аддзяленні праходзіліся б дысцыпліны не толькі чыста музейнай навуковай работы, але навучыліся б людзі і такому важнаму рамяству, як рэстаўрацыя экспанатаў. Зараз нам даводзіцца вазіць свае папсаваныя экспанаты ў Прыбалтыку. Нашы суседзі маюць добрыя рэстаўрацыйныя майстэрні, і мы плацім ім за работу вялікія грошы. А можна ж і нам мець такія майстэрні.

Не апошнюю ролю адыгрывае матэрыяльная база музеяў. У нашым музеі няма добрага фондасховішча, каб мы не баяліся за лёс набыткаў-экспанатаў. Сам музей таксама месціцца ў прыстасаваным драўляным будынку, які ўжо добра падгніў. Вязеш экспанат у такі музей і думаеш: а ці не папсуецца ён? І як не хваляваацца, калі мы маем такія каштоўныя экспанаты, як слуцкі пояс, скрыпку кампазітара М. Агінскага, цікавыя ўзоры ткацтва і тысячы іншых.

Слабы ў музейшчыкаў і заробак. Чалавек з вышэйшай адукацыяй зарабляе на 10—15 рублёў больш, чым прыбіральшчыца. А назва ў яго гучная — навуковы супрацоўнік. Вось чаму, акрамя энтузіястаў, ідуць у музей і такія людзі, якія ўжо маюць пенсію, або, працуючы ў музеі, стараюцца яшчэ і на баку недзе падрабіць. У тым жа Слуцкім музеі стаў нядаўна працаваць нехта Г. Карасёў. Ён мае добрую пенсію, пабочны заробак, і музейныя грошы для яго толькі так — на дробныя расходы. У музеі ён бывае толькі некалькі дзён у тыдзень, «адседжвае».

Многа каштоўных экспанатаў збіраецца ў школьных музеях. Але там няма матэрыяльна адказных людзей. Часам краязнаўцы пакідаюць школу, а разам з імі «едуць» і сабраныя экспанаты. Яны могуць прапасці, за іх, акрамя маральнай, ніякай іншай адказнасці няма. Больш таго, у школьных музеях, за рэдкім выключэннем, адкрыты доступ і да экспазіцыі, і да фондаў. Хоць у душы я за школьныя музеі, за пашырэнне краязнаўства, але ж так нельга. Трэба штосьці рабіць, каб нішто не прападала.

Ёсць у музеяў так званыя перспектыўныя цяжкасці. Зараз мы яшчэ збіраем многа розных узораў ткацтва, а пазней гэта стане праблемай, і вось чаму.

У некаторых вёсках жанчыну - ткачыху не падтрымліваюць. Часам ткачых параўноўваюць ледзь не з самагоншчыкамі — і караюць як тых, так і другіх. У адных ламаюць самагонныя апараты, а ў другіх — кросны, калаўроты, прасніцы. Такія выпадкі, на жаль, мелі месца ў Вілейскім раёне. Пра такое расказвалі нам і ў Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці. Сорамна тут усё гэта пераказваць. Але трэба.

А вось у Вільнюсе пры Міністэрстве культуры існуе Палац народнага мастацтва. Больш як дзесяць гадоў таму назад гэты палац згуртаваў 20 народных умельцаў і пачаў арганізоўваць выстаўкі народных вырабаў. Зацвердзілі статут новай арганізацыі «Ляўдэс мяно драўгія» («Таварыства народнага мастацтва»). Арганізацыя ахапіла ўсю рэспубліку. Толькі ў Вільнюсе ў яе ўступіла каля 160 чалавек. У другіх гарадах адкрыліся філіі. Ёсць свае крамы. Камісія штомесячна скупляе вырабы майстроў і прадае праз крамы.

Нам трэба зрабіць, каб жанчыны-ткачыхі маглі набыць кужаль, воўну, шоўк, каб у зімовыя дні, калі наступае спад у сельскагаспадарчых работах, яны маглі аддавацца любімай справе. Трэба гэтую справу цэнтралізаваць, каб сялянкі маглі прадаваць свае вырабы адпаведным магазінам ці тым жа музеям або выстаўкам. Гэтыя жанчыны сапраўдныя мастакі, а паспрабуйце вы адабраць у мастака пэндзаль, што атрымаецца?..

Мы заўсёды здзіўляемся высокаму густу ткачых з народа. І дзіўна, што да сённяшняга дня іх творчасць яшчэ не адзначана ніводнай навуковай работай па мастацтвазнаўстве.

Я разумею, што некаторыя мае разважанні маюць, можа, і суб'ектыўны характар. Але ж вельмі хочацца, каб урэшце была наладжана ў Беларусі музейная і архіўная справа. Каб быў вывучаны вопыт лепшых музеяў рэспублікі, вопыт лепшых краязнаўцаў мінулага, каб была напісана гісторыя музейнай справы ў Беларусі. З думай пра лепшае будучае, са спагадай да мінулага мы павінны крочыць у наш заўтрашні дзень, каб унукі і праўнукі сказалі дзякуй за тое, што мы нешта зберaглі і для іх.

г. Маладзечна.



Гэты здымак зроблены ў час выступлення Камернага аркестра БССР у Ленінградзе.
Фота У. ГРЫГАРОВІЧА.

# НА БЕРАГАХ НЯВЫ

Мінскі камерны аркестр пад кіраўніцтвам Юрыя Цырука гастраліраваў у Ленінградзе амаль аднaчасова з «Мадрыгалам» і аркестрам Рудольфа Баршая. Гэта было, шчыра скажам, рызыкоўна.

Аркестр прывёз многа музыкі: у кожным з трох канцэртаў, якія ён даў, праграма абнаўлялася амаль цалкам.

Аркестр, салісты і дырыжор—усе вельмі маладыя, але, бадай, у скідках на маладосць і нявопытнасць, не маюць патрэбы.

У першым жа канцэрце выявілася выдатная магчымасць аркестра і дырыжора: цэласнасць выканання, калі кожны момант гучання абавязкова вынікае з папярэдняга і абумоўлівае наступны, калі кожная паўза і фермата не выпадае з агульнай плыні і кожная фраза і рытмічны малюнак аднaчасова належаць самім сабе і цэламу. Ствараецца ўражанне, што музыка здзяйсняецца тут, зараз, дыхае і жыве. Гаворка ідзе аб з'явах, нібыта ўсім зразумелых, але як часта прыкрыя «перадышкі» псуюць нават самае добрае выкананне.

«Поры года» А. Вівальдзі былі сыграны на адзіным дыханні, і гэта выкананне адкрыла нечаканы драматызм і віртуознасць стылю Вівальдзі. У захапляючай бесперапыннасці музыкі былі заадно аркестр, саліст Р. Нодэль і дырыжор.

Скрыпачу Р. Нодэлю ўласцівы парывісты лірызм, яго выкананне Трэцяга канцэрта Моцарта даволі нетрадыцыйнае. А калі флейтыст А. Марынчанка іграе ў канцэрце Гайдна свае кадэнцыі, успамінаецца нейкі цудоўны час, калі дар імправізацыі не быў шчаслівым выключэннем.

Аркестр сыграў «Музыку для струнных» С. Картэса і паказаў у ёй разнастайныя тэмбравыя магчымасці струннай групы. Цікава прагучаў і арганны канцэрт А. Янчанкі.

У строгім акадэмічным Ленінградзе, дзе цэніцца прафесіяналізм і стылістычная строгасць, у цудоўнай старажытнай зале Капэлы, канцэрт Мінскага камернага аркестра прайшоў з сапраўдным поспехам.

Т. КОРВІН.

г. Ленінград.



Вечаслаў АДАМЧЫК

# СЯЛО



**«Сяло» — гэта раздзел з маёй аповесці, якая пакуль што не мае цвёрдае назвы. Аповесць—пра лёс адной кабеты, Алесі Корсакавай, Алеся, як і яе няшлюбны муж Імполь Верамей, як увесь род Корсакаў, як уся заходнебеларуская вёска Верасава неадлучныя ад цэлага свету—свету зайздрасці, пакут, свету, над якім ужо навісла навальнічная хмара другое сусветнае вайны.**

**АЎТАР.**

СЯЛО збіралася ў Корсакаў. Збіралася ўжо не адзін год: спярша, як дома была Алеся, а потым, калі яна выйшла замуж, падняўся Міця, ці Змітрук, як казалі на яго ў вёсцы— і хата ў Корсакаў не зачынялася ні ў будні дзень.

Раніцаю, укінуўшы на дзень скаціне і не чакаючы, пакуль зварыцца снеданне, яшчэ нашча прыходзіў хто-небудзь з мужчын. Прыходзіў паслухаць, што робіцца на свеце—Міця выпісваў газеты, найбольш усё беларускія, з Вільні, дзе некалі вучыўся і сам, але летась перад вялікаднем, як вярнуўся дахаты, то ўжо і сядзеў у Верасаве: гаварылі ўсе, што яго прагналі з гімназіі нібыта за палітыку.

Іншы селявік прыходзіў так сабе, абы пагаварыць, бо дома ўсё змалочана, астаўся хіба толькі лубін, што ляжыць пад застрэшкам ці ў палувенцы, лускаючы перасохлымі струкамі, але з ім пачакаецца да вясны, а цяпер няма чаго рабіць, як пасядзець на сяле. І ён прыходзіў да Корсакаў. Не расшпільваючы кажух, не скідаючы шапкі, садзіўся на парозе і гаварыў то да Міці, што мянціў аб вузкую папругу брытву, падвярнуўшы ў рубашцы каўнер і расшпіліўшы грудзіну—збіраўся галіцца, то да маладое гаспадыні, што з аб'еханаю хусткаю стаяла каля печы, махаючы вілачнікам, падважвала чыгуны, і ў яе на твары, на грудзях, на голых да локцяў і пруткіх руках трапяталася чырвань ад агню.

Гэта была тая самая прысадзістая дзеўка, што некаторага дня прыбягала да Алесі пазычыць газы. Прыходзілася яна Алесі і Міцю стрыечнаю сястрою і звалі яе Ваця. Узялася яна тут ў Верасаве яшчэ з жніва: падмеўся яе гадаваць ні то ўзяў за наймічку Улас Корсак: у яго сястры, што была замужам аж пад Наваградкам за дваццаць вёрст адсюль, памёр мужык, а ў хаце трое дачок адна пад адну—сястра і аддала меншую з іх, Вацю. Корсак дакляраваў, што апіша гектар.

Аўдавеў ён даўно, але браць у хату новую гаспадыню не хацеў: ужо дзеўкаю была Алеся—яна абшывала і абмывала мужчын. І ўсё было добра, пакуль дома сядзела Алеся, а вышла замуж—адразу перавярнулася гаспадарка, нідзе парадку няма: ні ў полі, ні ў хаце, ні есці як трэба зварыць, ні жаць, бо ці ж гэта мужчынская работа! І Корсак узяў Вацю: ні то за дачку, ні то за наймічку.

А яна спрытная кругом была: і да гуляў, і да работы, і хараством удалася—валасы рыжыя, аж чырванаватыя, твар чысты, белы, нос дробны і рот свежы, як у дзіцяці. Іншаму маладому мужчыне быў інтэрас, як бы няўзнак паглядзець ды пагаварыць з маладою дзеўкаю. І ён сядзеў да тае пары, пакуль не прыбягала жонка і, не стукнуўшы ў акно, глуха не крычала з падворку:

— Снедаць ідзі, каб ты карчом сеў!

Селявік нехаця, упіраючыся рукамі аб калені, уставаў з парога, гаварыў, што вось жонка гудзе як калаўротак, што пасядзець не дасць, і браўся за клямку.

Управіўшыся дома, перад полуднем збіраліся дзяўчаты: прыносілі абвязаныя хусткамі прасніцы з кудзеляю—іхнія калаўроткі стаялі ў Корсакавай хаце яшчэ з учарашняе раніцы. Але прадзіва не было —дзень перад калядамі малы, як у зайца хвост, а на шарай гадзіне прыходзілі хлопцы, падсаджваліся да кудзельніц, неўпрыкметку скідалі з калаўроткаў шнуры, адбіралі лёгкія і голыя яшчэ верацёны, а як з куткоў вылазіў і блытаўся пад нагамі рэдзенькім растрэсеным пачассем мяккі поцемак, бралі каторую за рукі і цягнулі за пліту на ложак.

У хаце стаяў сыты рогат давольных хлопцаў і востры, тонкі крык дзявок.

Дзяўчына вырывалася, але, задыхаўшыся і змогшыся наўнэт, ужо сядзела з адным, падгладжвала пад хустку растрэпаныя валасы і яе ўжо ніхто не чапаў.

Чэз, наліваўся слепатою сіні вечар, у хаце гусла, хоць ты бяры яе на вобмацак, цемната. Ужо было не пазнаць у твар чалавека, хіба толькі па росце, калі ён устане, ці па носе, калі ён паверне яго напроці акна. Ружаватым агнём пыхкалі і тлелі папяросы. Дзяўчаты сядзелі без работы, паставіўшы ў кут прасніцы і пазатыкаўшы за кудзелю верацёны, і з імі ужо дзеразаваліся хлопцы.

А ў хаце яшчэ ўсё не запальвалі лямпу. Ціша мяшалася з цемнатою. І толькі чуваць было, калі якая з дзявок паціхеньку прасілася ў хлопца:

— Ах, божа,—пусці! Ці чуеш, пусці...

І потым, ліпка прыстаўшы, ляскала рука, мусіць, па чужой:

— Каб ты не дождаў!—падхоплівалася з ложка дзеўка.

Але вось нехта шлупаўся ў сенях, вобмацкам шукаючы клямку, адчыняў дзверы і ставіў з прыходу вядро—поўнае, бо чуваць было, як глухавата і востра дзынкнуў аб яго вочап.

— А чаму ж лямпу не запаліце?—спытаўся ў цемнаце і грукнуў, зачыняючы дзверы, стары Корсак. Ён ужо, мусіць, накарміў скаціну.

Аднекуль з кутка вышла Ваця. Напроці акна было відаць, што ў яе раскалмаціліся нізка падрэзаныя валасы. Падступіўшыся, зняла лямпу і панесла пад акно выціраць закуранае шкло і падліваць газу.

Зарыпелі ложкі—дзеўкі церабіліся ў хлопцаў з рук. Жмурачыся ад лямпы і абгладжваючы сукенкі, беглі да сваіх прасніц: брыдка ж прысці дахаты з пустою шпуляю ці голым верацяном.

Ізноў пачыналі скрыпець панажы калаўроткаў, фуркалі, ганяючы вецер, шпулі, мігцелі колы, зноў круціліся, спадаючы да зямлі, верацёны і белыя ад сліны і абшморганыя ніткай пальцы ўсё скублі і скублі, торгаючы, шэры дым кудзелі.

Самым прыцемкам, разагрэлыя, з рагамі поту на шчоках, у хату яшчэ ўвальваліся дзеці—адразу цэлаю плоймаю. Цяжка саплі і аддыхваліся, збіўшыся каля парога і хаваючыся адзін за аднаго, каб не пазналі.

Але хто-небудзь з хлопцаў, болей зухаваты, спадцішка расшпільваў папругу, вышмэргваючы яе з порткаў.

— А вас хто клікаў?—пытаўся ён і складваў у дзве столкі папругу.

Учуўшы, як дзынкае спрожка, дзеці хлынулі назад, у сені і, зачапіўшыся за парог, пападалі адзін на аднаго—і тут ужо па іхніх спінах, як па мяшках з мякінаю, вухкала папруга.

Падхапіўшыся і не зачыніўшы дзвярэй, дзеці ўцякалі на двор і адтуль ужо, зманваючыся, рагаталі. Толькі той, якому сцебанула, быдта гарачым жалезам апякла шыю папруга, адышоўшыся ўбок, мацаў балячае месца і ціха, каб ніхто не чуў, плакаў.

А давольны кавалер стаяў на парозе, падпяразваў, падтрасаючы, порткі і яшчэ страшыў, мусіць, каб чулі дзяўчаты:

— Я це пакажу!

Дзяўчаты, сцішыўшыся, маўчалі, пэўне думаючы, што і сам ён не надта далёка адышоўся ад такіх, бо ці даўно на вечарынках сыпаў на падлогу бубкі з палыну: калі іх разатруць, расшаруюць, гуляючы—у хаце было аж не дыхнуць ад гаркаты, як ад атруты.

А тая з дзявок, што надоечы, мусіць, сварылася з ім, раптам крыкнула, не ўтрываўшы:

— Хату зачыняй!

Па нагах з сяней цягнула холадам.

— Пачакай, хай порткі падцягне, а то зваліліся пэўна,—азваўся нехта з хлопцаў з-за белае высокае пліты.

— І праўда, духата, учадзець можна,—агрызнуўся зухаваты, але зачыніў дзверы.

— Гы-гы,—зарагатаў хтосьці і раптам змоўк, як яму зарвала—відаць, закрыў рукою рот.

На таго, што сядзеў за плітою, брахалі Чад. Быў гэта Бронісь Літавар—сталы ўжо хлопец, адзін у бацькі сын на трацiну зямлі. Сватаўся ён да багатшых і харосшых дзяўчат, але нешта ўсе яму сплочвалі за гарэлку—замуж ніводная не ішла: меў ён ганьбу, бо ў яго, як і ва ўсіх Чадоў, смярдзела з рота.

І ён стаў падходжваць да Ваці, паровячы кожны раз пасядзець з ёю на ложку за плітою.

Цяпер ён высунуўся адтуль—чорны, мажны, з гарбаватым каля пераносіцы і трохі прыплясканым да губы носам, падобны да старога барана. Картовая кепка, пашытая ў кліны і з гузікам на макаўцы, сядзела ў яго на правым вуху.

— А ты глядзі, а то папраўдзе забаліць і знахар не паможа,—сказаў ён, адводзячы вочы і кусаючы ніжнюю губу. Твар і шыя ў яго пачалі налівацца чырванню.

— Не страш бабу адным, калі яна двох не баіцца!—зухаваты цыркнуў сабе пад ногі слінай і расцёр яе. Ён быў невысокі, шчуплы, усяго па плячо Літавару і на шмат малодшы і пэўна яшчэ не галіўся, бо шчокі меў гладкія і ружаватыя, як у дзяўчаці. Літавара ён не вельмі баяўся—тут яшчэ сядзелі два яго стрыечныя браты, такія ж дробныя, як ён сам. Гэта былі Рэпкі ці Каты, як брахалі на іх у вёсцы. Каты жылі ў Прылуках—так называліся тыя хутары, што былі за рэчкаю, але штодня прыходзілі ў Верасава на сяло. Меншы з іх, Тадзік Кот, той самы, што цяпер сварыўся з Літаварам, таксама спрабаваў хадзіць да Ваці. І на спаса, калі ў Прылуках была вечарынка, ён, п'яны, схапіўшы бязмен, пераймаў Літавара на кладцы—той падводзіў дадому Вацю. Ноч была позняя—зжоўк поўны, як наліты яснасцю месяц, усё сцяжэла ад расы, прэсны холад падымаўся з балота, нібы браўся мароз. Сцішна булькала рэчка, дзе на вірох; вада ў ёй была поўная, з берагамі і, здаецца, густая, нібы растоплены тлушч. Кот змёрз, схаваўшыся на другі бок кладкі за кустом і трымаючы нагатове бязмен—алавянаю булавою ўверх. Але Літавара ён тады не пабіў, толькі перапалохаў Вацю; яна ішла першаю і, скочыўшы з высокае кладкі, што ляжала між камлёў крывое вярбы, на бераг, наткнуўшыся на яго. Кот сп'яна ці то разгубіўся, ці то не ўскораў размахнуцца бязменам, як яго за абедзьве рукі схапіў Літавар і, крутнуўшы кругом сябе, вырваў бязмен і пхнуў на куст—там акурат канчаўся бераг. Кот, ломячы пераспелую высокую крапіву і абвальваючы дзярно з пяском, паехаў у рэчку і з цемнаты, з-пад берага ўжо, заенчыў:

— Ну, Чад, я табе не дарую.

Літавар яшчэ пастаяў, паглядзеў, як боўтаецца каля берага Кот, хапаецца недзе за карэнні, каб вылезці, і пабег даганяць Вацю.

Бязмен так і застаўся ў Літавара, па яго ніхто не прыходзіў. З таго разу Каты не паказваліся ў Верасаве, можа знарок, а можа—не. Сёння іх было аж трох і прышлі яны не так сабе, бо старшы з іх — белы, з выцвілымі брывамі і чырвонымі вейкамі Янак, схаваўшыся за прасніцу, каб не было відаць Літавару, міргаў меншаму брату: «Не бойся, калі што, паможам».

— І праўда, нешта галава разбалелася,—падняў шапку Тадзік Кот, падгладжваючы пад яе рассыпаныя на два рады валасы.

— Можа ў с... лягчэй!—не стрываў ужо стары Корсак, высунуўшы з-за пліты лысую—толькі на патыліцы чорны вянок—галаву. Ён сядзеў на лаве каля печы, трымаючы валёнак—падшываў сырамятным лапікам стаптаную ўжо да дзіркі пяту.

Каты пераглянуліся: селядоршы і трохі вышшы за астатніх, што сядзеў каля акна, у шарачковым з закручанымі кляпамі пінжаку, матнуў галавою:

— Хадзем.

— А ніхто і не просіць, каб ты тут сядзеў. Ідзі, свет адчынены,—Корсак ссунуўся з лавы, трымаючы высмалены з жоўтым пятном на галянішчы валёнак—на дратве цяляпалася і бліскала тоўстая іголка.

Каты ўсе трое пасунуліся да дзвярэй. Апошнім, заклаўшы рукі за спіну пад кароткі пінжак, пайшоў Тадзік—грукнуў за сабою дзвярмі—аж у лямпе падскочыў язычок.

— Баба з воза—каню лягчэй,—сказаў Корсак, калі з падворку ў сені зачыніліся дзверы.

Сяло маўчала—усе ведалі, што Корсак Улас проці, каб нехта з Катоў сватаўся да Ваці. Каты ў Верасаве пашаны не мелі. На іх, як на людзей, не зважалі яшчэ здаўна. Каты былі бедныя: казалі, што



Мал. А. САПЕТКІ.

яшчэ за паншчынаю ў іхняга прадзеда пан адабраў зямлю — цяпер у іх на двух братоў асталася шастуха: шостая часць валокі, па цяперашніх мерках—тры гектары з нечым, ды і тая не зямля, адна камяніца. А на голага сабакі брэшуць. І калі ў Верасаве была якая пакража—падазрэнне падала заўсёды на Катоў. А за руку, як кажуць, злавілі таго самага іхняга прадзеда—ён у Мондрых, некалі першых на ўсё Верасава багатыроў, краў са свірна з глыбокіх засекаў збожжа, пракруціўшы свярдзёлкам у сцяне дзіркі.

Паздзеквацца з Катоў ды пасмяяцца з іх у Верасаве любіў кожны. Яны ж людзі пунтовыя і заядлыя —мсцілі па-свойму. Адзін з іх, Тадзікаў бацька, Рэпка Адам, астаўшыся пры паляках солтысам, пачаў удаваць людзей: палякі тады пабралі ў вёсцы коней і збілі да паўсмерці Корсака—ён хаваў у хляве жарабіцу, перагарадзіўшы яго яшчэ адной глухою сцяною.

Гэта Катам ужо дараваць не маглі.

— У, каты, у, кашэчнікі!—стары Корсак заварушыўся каля печы, мусіць, спомніўшы сваю даўнюю злосць.

— Ці не досыць,—аказаўся ўжо Міця, не залюбіўшы, што бацька не перастае сварыцца.—Пагаварыў і досыць!..

— Яны некалі ўсю вёску баламуцілі і цяпер во,—Корсак нагнуўся да іголкі, што вытыркнулася з валёнка, выцягнуў яе зубамі і хацеў нешта сказаць яшчэ, але ў сенях штосьці загрукацела—як падаў пусты кубелец ці дзежка, і зазвінела парожняе вядро.

— Хто ж гэта заблудзіўся?—засмяялася Ваця і, вылезшы з-за калаўротка, адчыніла дзверы.

У сенях стаяў Імполь—спіною да яе. І Ваця сумелася, не пазнаўшы. хто ж гэта; падумалася ёй—той самы дурны, што некаторага дня хадзіў па вёсцы і ў Літавараў залез на печ—усе якраз на якую хвілю адлучыліся з хаты, не прысунулі дзвярэй. Дурны нават разуўся, паставіўшы на лаўцы боты, і заснуў—ледзьве яго потым спаролі.

Імполь абярнуўся, крыва і сарамліва усміхаючыся, што не знайшоў дзвярэй.

— А мне, бог ведае, што падалося,—сказала Ваця, убачыўшы і пазнаўшы Алесінага малацьбіта.— Заходзьце ж у хату,— і адняла ад клямкі руку.

Усё сяло глядзела туды, на парог. Дзяўчаты ўжо знаді, што да Радзівонавай Алесі наняліся малаціць чужыя мужчыны—адзін з іх малады і надта ж харошы хлопец. Расказала Ваця, а некаторыя дападныя ўскоралі падцікаваць самі і цяпер таўклі, штурхалі адна адну локцем пад бок: «Глядзі, хто прыйшоў».

Імполь убачыў, што з-за кожнае прасніцы блішчаць, выглядаючы, вочы, і закруціўся сярод хаты, шукаючы, дзе гэта дзецца, і сагнуўся, як гнецца высокі чалавек, нібыта саромеючыся свайго росту.

— Садзецеся,—хлопцы рассунуліся на лаве, ляпнуўшы рукою на пустое месца.

Імполь абвёў вачыма сяло і дастаў пачку папярос, выстаўляючы яе хлопцам: да яго нават здалёк пацягнуліся рукі—тытунь быў дарагі, а свайго палякі садзіць не давалі—і хлопцы былі ласыя пажывіцца чужым ды дармовым.

У хаце запахла саладжавым сінім дымам, пах яго быў нязвыклы пасля ўдушлівае махоркі і самасаду. Гэтакім лёгкім, смачным дымам у верасоўскіх хатах пахла толькі ў свята, калі хлопцы нават і тыя, хто не курыў, дзеля фасону куплялі ў мястэчку папяросы.

— Ну і запыхкалі,—Міця папярхнуўся дымам і, падышоўшы да печы, адкрыў у коміне верхнік.

— Ой, які далікатны. А мне дак хораша пахне,—азвалася дзеўка, у якой, мусіць, самлела рука—патрымай яе перад носам, скубучы кудзелю.

— І праўда, што ж гэта за папяросы?—нацягнуўшы падшыты валёнак і ўсё тупаючы нагою, і гледзячы на яе, пракульгаў, бо другая была босая, да Імполя стары Улас.—Дай жа я сапсую адну.

— Курыце, дзядзька, курыце.—Імполь абмацаў кішэні, шукаючы, у якой папяросы.

— Гэй, курцы, ці чулі, што было пад Пінскам?—выйшаўшы на сярэдзіну хаты, спытаў Міця.

— Не, а што?

— Кум з кумою дзіця згубілі.

— Ну яе?—дзяўчаты нават перасталі прасці, прыпыняючы за кола свае калаўроткі.

— А во паслухайце,—Міця падступіўся, дастаў з-пад бэлькі скручаную ў трубку газету, разгарнуў яе, прыжмурыўся і пачаў чытаць: «Нязвыклы выпадак здарыўся пад Пінскам. Мяшканцы хутара Глуша Каленік Талерка і Аўдоця Мядзведзь вязлі хрысціць дзіця. Удома кумоў так напаілі, што толькі каля царквы яны агледзеліся, што згубілі дзіця. За вярсты тры ад хутара яго знайшоў Дзямян Калета з Свалові́ч. Яно ляжала жывое ды здаровае збоку дарогі. На трэці дзень у Глушы нанава спраўлялі хрэсьбіны».

— Ах ліха! Во, і не забілася,—сказала каторая з дзяўчат, зноў націскваючы нагою на понаж і слінячы кудзелю.

— А што яшчэ там пішацца?—Літавар адарваў задніцу ад лавы, але не ўстаў, а толькі выцягнуў руку, просячы газету.—Пакажы.

— Яўрэяў вунь у Нямеччыне б'юць.

— А на мой розум...—выпусціўшы дым і не зацягнуўшыся, сказаў Корсак.—Пачынаюць то з іх, кончыцца ўсё на хрышчоным чалавеку. Некалі іх і палякі білі. Адрэжуць у старога яўрэя бараду, прывяжуць на бярэзіне за вярэвачку, і рагочуць... Дальбог, сам бачыў.

Дзяўчаты сцішана пралі, задумаўшыся пра нешта сваё. Толькі каторая няўзнак зыркала на Імполя і ў яе, сарваўшыся з рукі, падала і каціласся пад лаву верацяно.

А кучаравая Яня, што была аж з другога канца вёскі, паднялася з прасніцы і пачала абкручваць кругом шыі рог тоўстае хусткі.

— Ой, і нам пара,—падхапіліся астатнія дзеўкі, забіраючы з сабою прасніцы з вялікімі барадамі недапрадзенай кудзелі.

Адзін за адным кінуліся ў сені і хлопцы, каб злавіць якую ды падвесці дадому. У сенях падняўся віск, быў чуваць сыты рогат Броніся Літавара.

Імполь выходзіў апошнім і з ім, каб прысунуць дзверы, Ваця, накінуўшы на галаву вялікую суконную хустку, як тут казалі, канаплянку.

Хлопцы з дзеўкамі ўжо смяяліся на вуліцы. Але раптоўна гэты рогат сціх. Немы чужы крык праця́ў вясёлую цішу:

— А людзечкі, ая-ёй!

Імполь дагадаўся, што некага б'юць. Тупацелі ногі, трашчаў плот—ламалі недзе частаколіны.

— А, божачка, што там?—Ваця злавіла яго руку.

— Б'юцца,—сказаў ён, чуючы, як яна дрыжыць ні то ад холаду, ні то ад страху.

На падворку валтузіліся: нешта мякка і глуха вухкала, як у падушку, і нехта крактаў, нібыта сек дровы.

— Ізноў, мусіць, гэтыя Каты,—сказала яна, стаўшы на высокі парог і цікуючы на падворак: кругом яе галавы ад белага месяца стаяла сіняватая яснасць.

— Ой, не суньцеся ж хаця вы,—яна лёгка кранула Імполя за плячо, калі ён пераступіў парог. З-пад веснікаў нехта бег сюды; угнуўшыся, без шапкі, твар у яго быў заліты крывёю—яна выдавала чорнай, як гразь. І нехта, ніжэйшы, трымаючы ў руках калок, насціг яго каля хаты і з усяе моцы гахнуў па плячах—калок трэснуў і адзін канец, скачучы, як скача адсечанае ад калодкі палена, паляцеў аж пад парог.

— Ах, божачка, заб'е ж,—зноў немым голасам заенчыла дзеўка. Гэта была Яніна—стрыечная Літаварава сястра.

Астатніх дзяўчат і хлопцаў нідзе ўжо не было відаць. Толькі за плотам стаялі двое, мусіць Каты—але іх цяжка было пазнаць, яны хаваліся за шэры, голы ўжо бэз.

— Ну, Чадзіна...—Тадзік мацюкнуўся і, не выпускаючы з рук канец адламанага калка, пайшоў да сваіх братоў.

— І што гэта ім зноў тутака трэба?—крыкнуў туды, на вуліцу, Корсак Улас, вышаўшы разам з Міцем на двор.

— Хадзі і ты сюды, хадзі,—аказаліся з-за плота Каты.

— А ты паагрызайся болей,—Міця саступіў з пляскатага каменя, што ляжаў каля парога. Рукі ў яго былі закладзеныя за спіну—ён хаваў ззаду нешта караткаватае—ці не жалезны прэнт.

Каты змоўклі. Высунуліся з цяньку і пайшлі вуліцай, схаваўшыся за рогам чужое хаты. Адзін нешта дробна высвістваў.

А тут, каля парога, усе, сцішыўшыся, пазіралі, як Літавар абцірае хустачкай кроў і плюе яе з рота.

— Ідзі ў хату, Броніcь,—сказаў Корсак, хаваючыся ў цёмных сенях.—Ідзі, абмыйся хоць.

— І праўда, Бронік,—Яня з Ваця́й пагналі Літавара ў хату.

Імполь вышаў на вуліцу, каля веснікаў наступіў на нешта чорнае і мяккае, ці не на Літавараву шапку. Адышоўшыся, чуў, як недзе ззаду смяяліся дзяўчаты, мусіць, знайшоўшы яе каля плоту.

Вечар быў ясны—высока на полудні стаяў белы месяц з сіняватым у сярэдзіне і бурым па краях кругам. На нечым шчыце ў акенцы блішчаў зломак шкла. Пахла вострым марозам і чорствым, гаркавым лісцем—за плотам шарэў пруткі голы бэз. На звялай і шэрай, як ссыпанай соллю траве, пераліваўся, цьмяна мігцеў іней. Каля цёмнага плоту была знаць здалёк паска маладога ўчарашняга снегу, што не растаў за дзень. Дужэў прымаразак—камянела зямля. Усё выдавала пустым, голым і званчэйшым, як у парожняй дубовай бочцы. Так бывае позна ўвосень у сухі мароз. Недзе ў хляве бляяла, акаціўшыся, авечка—там нехта свяціўся з ліхтаром: праз адчыненыя дзверы было відаць жоўтую яснасць.

У канцы вуліцы, чуваць было, гаварылі. Падыходзячы бліжэй і заварочваючы на двор, Імполь учуў, што гаварылі Каты.

— І яе, суку, трэба правучыць.

Гаварылі, мусіць, пра Вацю. Імполь прыстаў сярод падворка, паслухаў, але нічога не ўчуў. З-за хлеўчыка высунулася і загаўкала, кідаючыся да ног, аблавухая сучачка—яна яшчэ не асвойталася з чужымі ў хаце людзьмі. У вокнах раптам патух агонь—гаспадыня, мусіць, рыхтуючыся спаць, спалохалася, ці не падглядвае хто.

Імполь пастукаў у цёмнае, што адлівала месячным бляскам, глухое акно. І праўда, за шыбаю паказалася Алеся з распушчанымі валасамі і ў глыбока выразанай на грудзях сарочцы.

# І «ПАДРУЧНІК», І «КНІЖКА»...

*РОЗДУМ ПАСЛЯ АДНОЙ ВЫСТАЎКІ*

ГЭТА невялікая выстаўка была арганізавана Дзяржаўным камітэтам Савета Міністраў БССР па друку, Міністэрствам асветы БССР і выдавецтвам «Народная асвета». Некалькі стэндаў новых школьных падручнікаў экспанавалася ў памяшканні Рэспубліканскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў. Асноўнымі наведвальнікамі былі педагогі і работнікі, так ці інакш звязаныя з педагагічнай дзейнасцю.

Факт такой выстаўкі прыемны тым больш, што мы пераканаліся: галоўны ўпор выдавецтва «Народная асвета» ў апошнія часы зрабіла на распрацоўку і афармленне арыгінальных падручнікаў для малодшых класаў з улікам новых школьных праграм, псіхалагічных асаблівасцей і схільнасцей дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Улічана таксама навейшая методыка выкладання. Падручнікі выканаы на належным паліграфічным узроўні (палепшаная папера, трывалы пераплёт, каляровыя малюнкі і г. д.).

На абмеркаванні выстаўкі настаўнікі, супрацоўнікі інстытута ўдасканалення настаўнікаў, навукова-даследчага інстытута педагогікі ў асноўным станоўча выказваліся аб паказанай прадукцыі выдавецтва «Народная асвета». Асноўныя заўвагі датычылі методыкі і якасці выдання падручнікаў для старшакласнікаў. Арыгінальныя падручнікі па беларускай мове і літаратуры, як было заўважана, напісаны сумнай, сухой мовай, а арыгінальныя выданні для малодшых класаў насычаны прымітыўнымі маралізатарскімі тэкстамі.

Аб ролі мастака ў стварэнні школьных падручнікаў гаварыў на абмеркаванні выстаўкі выкладчык Маскоўскага паліграфічнага інстытута В. Рыўчын. Ён асобна адзначыў работу мастакоў П. Драчова і Я. Куліка па макеціраванні падручніка «Беларуская мова» для першага класа. Як узор удалага спалучэння эстэтычнага і эканамічнага эфекту ён прывёў двухколернае афармленне мастакамі Наталляй і Георгіем Паплаўскімі падручніка «Спевы» для 1 класа. «Буквар» для 1 класа, адзначыў ён, слабейшы па афармленні як стылістычна, так і кампазіцыйна.

Некаторыя выказванні настаўнікаў аб мастацкім афармленні падручнікаў зводзіліся да пажадання, каб гэтыя выданні былі аформлены «больш канкрэтнымі, больш даступнымі і зразумелымі малюнкамі, больш зразумелымі рэпрадукцыямі, таму што нават некаторыя настаўнікі не могуць разабрацца ў іх». Вядома ж, не ўсе падручнікі бездакорныя. Але выклікае пачуццё засмучэння нізкі эстэтычны ўзровень настаўнікаў, многія з якіх скардзяцца на «незразумеласць» рэпрадукцый і малюнкаў.

У гэтай сувязі прыгадалася, як у адну з паездак па Гродзенскай вобласці ў пачатку верасня г. г. на адным са шматлікіх «школьных» прыпынкаў аўтобуса я сустрэла маленькую дзяўчынку. Некалькі хвілін мы ехалі разам у аўтобусе моўчкі, а потым... Потым пачалося маё нечаканае знаёмства з падручнікам нашага беларускага выдавецтва «Народная асвета». Дзяўчынка выцягнула з ранца дабротную, аб'ёмістую (магчыма, нават занадта аб'ёмістую для першакласніка) кніжку з лакіраванай вокладкай, на якой сярод кветак на лузе сядзіць дзяўчынка — зусім такая, як гэтая, што гартае шчыльныя старонкі кніжкі. На фарзацы мяккі лёгкі акварэльны малюнак. Возера, поле, вакол лес і пужок, на які толькі што ступілі чырванадзюбыя буслы. На тытуле — чарада птушак у палёце і, нібы адлюстраванне іх палёту ў возеры, накрэслены літары, якія складаюць назву падручніка. А на адвароце тытула — зіма.

— Вось чаму адлятаюць птушкі, — раптам заключыла дзяўчынка, убачыўшы зіму. — Халады іх прымусілі.

Прызнацца, я не заўважыла, што гэта маленькая вясковая дзяўчынка, якая пакуль яшчэ не мае ўяўлення аб законах макетавання, ілюстравання, стылю ў мастацтве, не зразумела нечага ў гэтых не зусім звычайных ілюстрацыях. Нават наадварот: ёй яшчэ і яшчэ раз хацелася «прачытаць» па малюнках пра зверанят у лесе, пра рыб, птушак і пра ўвесь той свет, які насяляе старонкі кнігі. Кнігі, якую мастакі П. Драчоў і Я. Кулік праілюстравалі ў свабоднай манеры, не звязанай з нашымі традыцыйнымі ўяўленнямі пра ілюстрацыі ў падручніках для школьнікаў. Кніга ўся прасякнута любоўю да роднага краю. Мастакам удалося двума-трыма колерамі і акварэльнай размытай перадаць маляўнічасць беларускай прыроды. Малюнак трымаецца на пераходах, нюансах. Каляровы мазок часта не акрэслены рэзка, але лёгкасць формы надае яму выразнасць, паэтычнасць.

А на выстаўцы я сваімі вачыма бачыла, як адна з настаўніц (на жаль, прозвішча не ведаю), тыцнуўшы пальцам у тытул, сказала: «Чорт ведае што гэта? Птушкі незразумела якія! Ну, скажыце, — дамагалася яна,—якія? І пляма блакітная тут зусім недарэчы... Што гэта такое?»

Хочацца тут заўважыць, што настаўнік, адукаваны ў эстэтычных адносінах, наўрад ці задаў бы такія пытанні і ў такой форме. Перш-наперш настаўнікі павінны (правільней — абавязаны) разумець і разбірацца ў пытаннях выяўленчага мастацтва, каб, калі спатрэбіцца, здолець растлумачыць вучням не толькі элементарныя ісціны, але і пагчы разабрацца ў больш складаных момантах мастацтва. Таму пытаннем узроўню эстэтычнага выхавання школьнага настаўніка, думаецца, настаў час заняцца сур'ёзна!

Здымаю з паліцы і гартаю зноў гэту кніжку. Сапраўды, цікавы падручнік! На стэндах выстаўкі яшчэ не адна цікавая кніжка. І слова «кніжка», а не «падручнік» я ўжываю тут зусім не выпадкова. Бо многія школьныя падручнікі, выдадзеныя сёлета для малодшых школьнікаў, інакш не ўспрымаюцца— і гэта, мне здаецца, самая вялікая іх вартасць. Гэтыя кніжкі—нібы працяг таго захапляючага свету, які дзеці ўбачылі ў дзіцячых кніжках да школы.

«Зарнічка» — называецца кніжка для чытання ў другім класе па рускай мове для беларускіх школ. Мастакам Г. і Н. Паплаўскім гэтая кніжка—яшчэ адна магчымасць расказаць пра вёску, пра яе людзей, магчымасць прадоўжыць ілюстрацыі сваіх казак, былін. Малюнкі гэтай кніжкі не кідкія, але глядзяцца весела, святочна.

У іншым ключы аформлены мастаком Г. Скамарохавым падручнікі «Роднае слова»—кнігі для чытання ў першым і ў другім класе. Малюнкі тут часта пачынаюцца на адным баку развароту і, нібы запрашаючы вучня перагарнуць старонку, працягваюцца на другім баку або на адвароце ліста. Яны быццам завуць вучня ўдзельнічаць у засваенні намаляванага.

Менш цікавыя, на мой погляд, падручнікі «Русский язык» для другога класа з беларускай мовай навучання мастака Ю. Зайцава і «Беларуская мова» для чацвёртага класа мастака Л. Дубавіцкай.

Невялікая выстаўка падручнікаў гэтага года засведчыла, што ў нас у рэспубліцы ёсць мастакі, якім мы можам давераць такую адказную кнігу, як школьны падручнік. Выстаўка паказала эстэтычныя магчымасці школьнага падручніка і дала падставы думаць, што нашы падручнікі ў бліжэйшыя гады стануць яшчэ лепшыя і больш цікавыя.

**Б. НІКІЦІНА.**

Супрацоўнікі і рэдкалегія часопіса «Беларусь» выказваюць глыбокае спачуванне загадчыку аддзела нарысаў рэдакцыі пісьменніку Міколу Гродневу з прычыны напаткаўшага яго цяжкога гора — смерці БАЦЬКІ.



Аляксандра ЧАРНЯЎСКАЯ

# З ПАНЯДЗЕЛКА

## ПАНЯДЗЕЛАК

Кажуць, што панядзелак—цяжкі дзень. Не ведаю, як у людзей іншых прафесій, але для ўрачоў гэта вельмі справядліва. Прыём пачынаецца з васьмі раніцы, і ўсе пяць гадзін каля кабінета чарга. Хворыя хвалююцца, нервуюцца: адзін позніцца на другую змену, другі павінен паспець яшчэ да нейкага спецыяліста, трэці хоча закрыць бальнічны ліст без чаргі—ён здаровы і ўжо выйшаў на работу.

Я таксама нервуюся і спяшаюся. У тэрапеўта план: пяць чалвек у гадзіну. Дванаццаць мінут, за якія я павінна пагаварыць з хворым, агледзець яго як мага больш уважліва, запісаць скаргі, вынікі агляду, прызначанае лячэнне, падумаць над ім.

Першыя дзве-тры гадзіны спраўляюся з нагрузкай, потым пачынаю працаваць павальней—стамляюся. Прапарцыянальна запаволенню тэмпу нарастае хваляванне за дзвярыма. Але вось з'явіўся хворы, якому патрэбна кансультацыя іншых урачоў — хірурга, неўрапатолага. Тэарэтычна гэта павінна выглядаць так: я кажу хвораму, што ён павінен узяць талончык на прыём да патрэбнага спецыяліста, якому мы потым перададзім картачку. А практычна? Хворы праседзеў да мяне дзве гадзіны ў чарзе, і талончыка да неўрапатолага ён ужо не дастане, яны раздадзены яшчэ ў 7.30. Значыць, заўтра ён зноў павінен у пачатку восьмай быць у паліклініцы, адстаяць чаргу ў рэгістратуру, потым наступную чаргу ў кабінет да неўрапатолага. А калі яму спатрэбіцца кансультацыя хірурга? А потым аналізы?

А хворы мой, з майго завода, і мне яго шкада. Апрача таго, ён жа пайшоў з работы, адпрошваўся. На заводзе канец месяца, самы напружаны час. Ды і хворы табе самому становіцца больш зразумелы, калі гаворыш непасрэдна з урачом, які кансультуе. Бяру хворага за руку і іду з ім па ўсіх кабінетах, з боязню гледзячы на людзей, якія чакаюць прыёму да мяне, і бянтэжачыся ад незадавальнення ў чарзе, якая сядзіць да неўрапатолага. Добра, калі неўрапатолагам усё скончыцца. Тады я трачу на хворага толькі дваццаць мінут. А калі патрэбны яшчэ адзін кансультант? Чарга ля майго кабінета на мяжы істэрыкі, урачы таксама: іх чакаюць свае хворыя, а тэрапеўтаў многа, і кожны вядзе свайго хворага на кансультацыю.

Мае рабочыя незадаволены, і я іх разумею. Раней паліклінікі былі на заводах, і ўсё было значна прасцей. Не трэба было адпрошвацца з работы, усе спецыялісты, рэнтген і лабараторыя былі на месцы. Потым у будынак паліклінікі, які абслугоўвае толькі жыхароў раёна, усялілі дадаткова яшчэ некалькі заводскіх паліклінік. З якой мэтай—не ведаю. Затое мае рабочыя цвёрда ўпэўнены ў тым, што ім так намнога цяжэй. Нам, урачам, таксама.

А ў памяшканнях, калісьці выдзеленых пад заводскія паліклінікі, раскошна размяшчаюцца пункты аховы здароўя. Вельмі раскошна, я б сказала, таму што людзі з сур'ёзнымі захворваннямі ўсё роўна ідуць у паліклініку,а не на пункт аховы здароўя, дзе прымае толькі фельчар. І вось правільная, разумная ідэя абслугоўвання рабочых на месцы, без адрыву ад вытворчасці, непатрэбна ўскладнілася.

А ў паліклініцы ў гэты ж час вырашаюцца невырашальныя канфлікты: два загадчыкі аддзяленняў у адным кабінеце—адзін адказны за ўчастковую службу, другі за заводскую.

— Як добра было без пастаяльцаў,—з раздражненнем гаворыць участковы загадчык, скідаючы нейкія заводскія паперы са свайго стала.

— Госпадзі, ну куды мне дзецца, каб пракансультаваць хворага,—стогне загадчык цэхавай службы.

З прыёму іду на завод. Сёння трэба агледзець дыспансерных хворых. Увосень і вясной, у самы небяспечны для здароўя час, мы выклікаем рабочых з рознымі хранічнымі захворваннямі: рэўматызмам, язвеннай хваробай, гіпертаніяй. І тут не абыходзіцца без канфліктаў.

Мая медсястра Леначка ўсхвалявана:

— Чацвёрты раз выклікаю Сінкевіча. Ну што я магу зрабіць, не хоча ён ісці.

Колькі разоў я сама гутарыла з гэтым хворым, тлумачыла, пераконвала, спрабавала нават запалохаць:

— Зразумейце, таварыш Сінкевіч, вам неабходна абследавацца і лячыцца штогод. Бывае ж, што рак страўніка ўзнікае на фоне іменна такіх гастрытаў з нулявой кіслотнасцю.

Але Сінкевіч цвёрды.

—Дзякую вам, доктар, за інфармацыю. Усё сам ведаю, выпісваю часопіс «Здароўе»,—з іроніяй гаворыць ён.

Ну, вядома, мая бедная Леначка не можа з ім справіцца. Уздыхаючы, набіраю нумар, добра, што тэлефон у Сінкевіча ў кабінеце.

— Добры дзень, таварыш Сінкевіч! Вас турбуе ўрач Чарняўская. Калі ласка, прыйдзіце на пункт аховы здароўя для агляду.

Незразумелае бурчанне, і на другім канцы провада кладуць трубку. Праз дзесяць мінут урываецца раз'юшаны Сінкевіч.

— Я прыйшоў вас папрасіць, доктар, больш не адрываць мяне ад работы. Пакіньце клопаты аб маім здароўі мне самому. Дваццаць гадоў у мяне нулявая кіслотнасць, і для таго, каб прайсці рэнтген страўніка, я васемнаццаць гадоў запар здаваў страўнікавы сок. Да пабачэння, доктар, і дазвольце мне прыйсці да вас тады, калі я сам адчую ў гэтым патрэбу.

А ён жа ў нечым мае рацыю. Мала шанцаў, што на дваццаць першым годзе захворвання ў аналізе страўнікавага соку будзе што-небудзь яшчэ, апрача нулёў. Мэтазгодна было б накіраваць яго адразу на рэнтген, а я не магу, бо ў нас ёсць свае ўстаноўкі: хворыя ва ўзросце да шасцідзесяці гадоў, абследуючы страўнікава-кішэчны тракт, павінны здаць страўнікавы сок, інакш лічыцца, што ўрач недаабследаваў хворага і не можа мець цэласнага ўяўлення аб карціне захворвання.

Такія ўстаноўкі, правілы абследавання хворых, канечне, разумныя і неабходныя. Але нельга ж рабіць з іх догму. Чаму б не дазволіць урачу зрабіць выключэнне для хворага, калі ён лічыць, што няма патрэбы абследаваць яго поўнасцю? Чаму я павінна нервавацца, калі загадчык бярэ амбулаторныя карткі маіх хворых і робіць мне заўвагу, што які-небудзь рэўматык не здаў аналізу крыві, а гіпертонік не пракансультаваўся ў неўрапатолага? Можаце быць упэўнены, што гэты аналіз і гэта кансультацыя хвораму былі прызначаны. Але ў момант агляду рабочы адчуваў сябе добра, яму было дадзена процірэцыдыўнае лячэнне, і ён не хоча ісці здаваць аналізы і стаяць у чарзе на кансультацыю. Не хоча, не мае часу, не любіць наведваць паліклініку. Чым жа вінаваты ўрач?

Ведаю, што мне на гэта скажуць тыя, што правяраюць: не пераканалі, не растлумачылі. А я і пераконвала і тлумачыла, больш таго, хворы пайшоў з прыёму, паабяцаўшы ўсё зрабіць. Але не зрабіў. Мне здаецца, што нельга браць хворага на дыспансерны ўлік, папярэдне не спытаўшы яго згоды, нельга трымаць хворага на ўліку і штогод абследаваць яго супраць яго жадання. (Зразумела, гэта ўсё не датычыць хворых венерычнымі і інфекцыйнымі хваробамі, г. зн. людзей, небяспечных для грамадства).

Больш бы даверу нам, радавым урачам.

Але, нават, калі вы пераканаліся, што перад вамі сімулянт, дык ці возьмеце на сябе смеласць сказаць яму: «Вы мяне ашукалі, вы былі здаровы». Ва ўсякім выпадку, гэта зробіць не кожны. Ён жа можа напісаць скаргу!

Пытанні неабгрунтаваных выклікаў і скаргаў—цяжкія праблемы для ўчастковых і цэхавых урачоў, хоць чамусьці лічыцца, што гэтых праблем не існуе.

Памятаю выпадак з участковым урачом нашай паліклінікі Баркоўскай. Пасля прыёму ў яе быў перапынак перад візітамі, у час якога яна зайшла ў прадуктовы магазін. У чарзе ў віны аддзел стаяла хворая, якая выклікала Баркоўскую на дом. Пачакаўшы, пакуль тая купіла бутэльку гарэлкі, Баркоўская падышла да яе з натуральным папрокам: «Як жа так можна, Маньковіч, выклікаць урача на дом і ісці ў магазін па гарэлку!». Нечакана тут жа, у магазіне, адбылася вельмі агідная сцэна, характэрная для жанчыны, якая замест таго, каб ісці на працу, стаіць у чарзе па гарэлку. Маньковіч крычала, што яна памірала ўчора і да яе выклікалі хуткую дапамогу і што яна не даруе ўрачу ганьбы.

Маньковіч сапраўды не даравала. Яна напісала велізарную скаргу. Скаргу разбірала камісія, якая высветліла, што ў Маньковіч сапраўды напярэдадні была хуткая дапамога, урач якой паставіў дыягназ... алкагольнае ап'яненне. Суседзі пацвердзілі, што гэта трыццаціпяцігадовая жанчына пастаянна п'е, пасля чаго нярэдка атрымлівае бальнічны ліст па абвастрэнні хранічнага халецыстыта.

Скаргу разбіралі месяц, і яна была прызнана неабгрунтаванай. Месяц доктар Баркоўская вымушана была тлумачыць і даказваць сваё, выслухоўваць папрокі на пяціхвілінутцы ў прысутнасці пяцідзесяці супрацоўнікаў і нават адказаць на пытанне, ці сапраўды яна шые сукенкі ў швачкі, якая жыве на яе ўчастку, таму што аб гэтым таксама было напісана ў пісьме.

А ўсе ж гэтыя дні яна яшчэ і працавала, хадзіла на візіты, вяла прыёмы ў паліклініцы і павінна была заставацца спакойнай, ураўнаважанай і добразычлівай да хворых.

Вядома, да думкі хворых трэба прыслухоўвацца, трэба разглядаць пісьмы пацыентаў, іх парады, прэтэнзіі. І калі ўрач быў грубы, няўважлівы, несправядлівы, ён павінен быць пакараны. А хто пакарае Маньковіч за яе паклёпніцкае пісьмо?

Мне здаецца, што людзі, якія напісалі неабгрунтаваныя скаргі, павінны за іх адказваць, бо фразы: «А вось я пайду ў гарздраўаддзел» і «Дайце кнігу скаргаў» сталі паўтарацца значна часцей, чым медыцынскія работнікі таго заслугоўваюць. І ніякае прызнанне невінаватасці ўрача не можа кампенсаваць страчанай ім раўнавагі і энергіі.

Але вось выйшаў Сінкевіч, задаволены прачытанай мне водпаведдзю, пайшлі ўсе астатнія, пакляўшыся самымі страшнымі клятвамі, што яны выканаюць усе мае прызначэнні. Ну што ж, застаецца спадзявацца, што так яно і будзе.

## АЎТОРАК

У аўтобусе па дарозе ў паліклініку чую размову двух маладых мужчын:

— Ведаеш, мяне на бульбу пасылаюць.

— Ну, што ж, радасць невялікая, вядома, але нічога не зробіш—ехаць трэба.

— Як гэта не зробіш, я ўжо ўрача на дом выклікаў.

Непрыкметна спрабую разгледзець таго, хто гэта сказаў. Нічога, высокі, плячысты, румянец проста зайздросны. Выходзіць з аўтобуса са мной разам, спяшаецца ў дом побач з паліклінікай. Сітуацыя зразумелая—пабег класціся ў пасцель, пасля дванаццаці можа прыйсці ўрач. І будзе ляжаць з пакутлівым тварам, расказваць доктару байкі і патрабаваць бальнічны ліст, таму што ён не змог устаць з пасцелі і пайсці на работу, а на крэсла каля ложка, канечне, не забудзе пакласці пачак аспірыну і тэрмометр (увечары, маўляў, тэмпература была).

І будзе бедны доктар ламаць галаву, што з ім такое, таму што не паверыць хвораму ён не можа, інакш што ж ён за ўрач. Але калі і закралася ў душу сумненне, дык трэба ж яшчэ даказаць, што ён здаровы, а для гэтага мала агледзець і памераць тэмпературу. Далёка не заўсёды яна ў хворых павышаная, не заўсёды захворванне выяўляецца пры аглядзе, і не мае права ўрач давяраць свайму першаму ўражанню. А раптам ён памыліўся, і чалавек сапраўды хворы?

І вось прызначаюцца аналізы, загружаецца лабараторыя, рэнтгенаўскі і электракардыяграфічны кабінеты, выдаецца бальнічны ліст з папярэднім дыягназам. У гэты час хтосьці з высокай тэмпературай чакае доктара, нехта з хваробай сэрца не можа атрымаць талончык на электракардыяграму, бухгалтэрыя плаціць грошы па бальнічным лісце. А здаровы хлопец ляжыць і пасмейваецца.

## СЕРАДА

Сёння ў мяне справаздача перад заводскім камітэтам па захворваннях. Гэта даволі цяжка. Захворванняў на

# ДОБРЫ ПЛЁН ПОШУКАЎ

**З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ КУЛЬТАСВЕТРАБОТНІКАЎ**

На пачатку заўважу, што праграма гэтай канферэнцыі, на якой былі абмеркаваны праблемы павышэння эфектыўнасці работы культурна-асветных устаноў Беларусі была разнастайная і цікавая. Працавалі секцыі клубных, бібліятэчных і музейных работнікаў, былі экскурсійныя знаёмствы з работай Дома культуры завода штучнага валакна і музея гісторыі прадпрыемства, абласной бібліятэкі і абласнога краязнаўчага музея, музея савецка-польскай баявой садружнасці ў Леніне Горацкага раёна. Удзельнікі канферэнцыі сустрэліся з вучонымі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і пабывалі ў музеі гэтай старэйшай у краіне вышэйшай навучальнай установы, прысутнічалі на тэматычным вечары «Слава працы» ў Ленінскім сельскім Палацы культуры, нарэшце, пабывалі на канцэрце мастацкай самадзейнасці Магілёва і народнага агіттэатра «Усмешка».

Рабоце культурна-асветных устаноў вобласці ў перыяд падрыхтоўкі да XXIV з'езда КПСС прысвяціў свой даклад начальнік Магілёўскага абласнога ўпраўлення культуры П. Давыдаў. Ён расказаў шмат цікавага пра змястоўную работу многіх устаноў культуры вобласці, якія сталі першымі памочнікамі мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый у барацьбе за выкананне пяцігадовага плана і важнейшых пастаноў партыі і ўрада, сапраўднымі цэнтрамі культурнага адпачынку, эстэтычнага выхавання і духоўнага гарту працаўнікоў горада і вёскі.

Сталую прапіску ў дзейнасці культасветустаноў Магілёўшчыны знайшлі такія формы работы, як дні рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцый, святы пасёлкаў, калгасаў, саўгасаў і вуліц, якія носяць імя Ільіча, клубы па інтарэсах, ленінскія пакоі і куткі ў бібліятэках, прысвячэнні ў хлебаробы, святы ўраджаю, вясны і зімы і многае іншае. Лепшыя клубныя ўстановы, бібліятэкі і музеі вобласці ўмела прапагандуюць вопыт перадавых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў. Ім, лепшым людзям калгаснай вёскі, прысвячаюцца тэматычныя і літаратурныя вечары, канцэрты мастацкай самадзейнасці, «агеньчыкі».

У дакладзе прыводзілася нямала прыкладаў, якія засведчылі, што за апошні час значна вырас аўтарытэт культасветустаноў Касцюковіцкага, Асіповіцкага, Горацкага, Быхаўскага раёнаў, палепшылася іх работа. Дакладчык расказаў пра абавязацельствы работнікаў культуры Быхаўскага і Асіповіцкага раёнаў, узятыя ў гонар XXIV з'езда КПСС, пра тое, што ўжо робіцца, каб стрымаць дадзенае слова.

І ўсё ж даклад выклікаў незадаволенасць. Імкненне літаральна «аглушыць» прысутных патокам лічбаў, надакучлівыя пералічэнні назваў праведзеных мерапрыемстваў былі б, можа, дарэчы ў статыстычнай справаздачы. Навукова-практычная ж канферэнцыя павінна дзелавіта, канкрэтна і мэтанакіравана прааналізаваць пэўны вопыт, вызначыць шляхі далейшага ўздыму работы культасветустаноў.

Слухаеш даклад і не знаходзіш у ім ніякага аналізу, ніякіх абагульненняў. Расказвае Пётр Нічыпаравіч пра тое, што бібліятэкі вобласці звяртаюць вялікую ўвагу на камплектаванне і выкарыстанне кніжных фондаў, што ў кожным раёне створаны ўжо школы перадавога вопыту ў гэтай справе, а

# ЧАСОПІСЫ Ў СНЕЖНІ

## «ПОЛЫМЯ»

*У нумары змешчаны вершы С. Дзяргая, Р. Тармолы, Аляксандра Пракоф'ева (пераклад з рускай А. Бялевіча), заканчэнне рамана І. Пташнікава «Мсціжы».*

*У раздзеле «Новыя пераклады» надрукаваны апавяданні «Трэба раскласці агонь» Бранка Чопіча (пераклала з серба-харвацкай А. Шарахоўская) і «Цыгарэта» Лючыэ Мастранардзі (пераклаў з італьянскай А. Шайня).*

*Публіцыстыка прадстаўлена артыкуламі «Меліяратары мяняюць воблік зямлі» міністра меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР Аляксандра Аляксанкіна і «Ленінская «Искра» і Беларусь» М. Бабіча.*

*Артыкул Т. Дубковай «Цымбалы» змешчаны ў раздзеле «У свеце мастацтва».*

*У нумары надрукаваны таксама артыкулы «Вам, хто любіць слухаць казкі, галасы легенд далёкіх» В. Небышынца (пра пераклад А. Куляшовым паэмы Г. Лангфэла «Спеў аб Гаяваце») і «Палескія пісьмы» Аляксандра Блока» І. Баса.*

*У часопісе рэцэнзуюцца кніжкі «Выбранае» А. Рылько, «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы» А. Булыкі.*

## «МАЛАДОСЦЬ»

*Часопіс заканчвае друкаваць раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі». У нумары змешчаны таксама вершы К. Цвіркі, М. Баравік, П. Пранузы, Д. Бічэль-Загнетавай, А. Ставера, Шандара Петэфі (пераклад з венгерскай М. Хведаровіча), Аляксандра Пракоф'ева (пераклад з рускай М. Аўрамчыка), апавяданне Т. Гарэлікавай «Свята».*

*Раздзел публіцыстыкі складаюць рэпартаж «Лагарыфмы бульбы» В. Ждановіча, артыкулы «Пошук вядуць маладыя» А. Бржазоўскага, «Пасля экзаменаў» М. Капуцкага, «Спатканне з Бетховенам» (да 200-годдзя з дня нараджэння кампазітара) Ул. Елісеева, «Па пуцёўцы камсамола» Дз. Жураўлёва, падарожныя нататкі «Пісьмы з рукзака» А. Трукшынай.*

*Часопіс знаёміць чытачоў з вершамі паэта-маладнякоўца Алеся Вечара.*

*У нумары рэцэнзуюцца кніжкі «Ленінскай гвардыі салдат» Р. Булацкага, «Гады нашы — птушкі» Ул. Паўлава, «Палескія навелы» Ул. Аляхновіча.*

## «БЕЛАРУСЬ»

*Перадавы артыкул «На фінішы слаўнага года» падсумоўвае здабыткі мінулага года і акрэслівае задачы наступнага, 1971 — года XXIV з'езда КПСС. 50-годдзю ленінскага плана ГАЭЛРО прысвечаны артыкул кандыдата геафізічных навук Ул. Навіцкага «Ленінскі план электрыфікацыі».*

*У гэтым жа нумары надрукаваны нарысы «Глыбокае рэчышча» В. Мысліўца (пра старшыню калгаса «Барацьба» І. А. Мацукевіча), «Усё людзям» А. Белавусава і М. Гроднева, інтэрв'ю з упраўляючым беларускага аддзялення Усесаюзнай гандлёвай палаты І. Е. Сталівоненкам «Беларусь на ўсіх кантынентах».*

*У нумары змешчаны апавяданні «Радасць» М. Ракітнага, «Ракі» В. Хомчанкі, працяг прыгодніцкай аповесці «А восьмай вечара...» Дануты Маеўскай, вершы К. Камейшы, М. Федзюковіча, Ул. Дзюбы. Юбілеі Афанасія Фета і Аляксандра Пракоф'ева адзначаны перакладамі іх вершаў на беларускую мову (пераклады М. Калачынскага і Ю. Свіркі).*

*Часопіс друкуе артыкулы «50 тамоў жыцця» Ул. Юрэвіча (пра выхад у свет 500-га нумара часопіса «Полымя»), «На быстрыні жыцця» Л. Дробава (пра выстаўку твораў мастака А. Волкава), рэцэнзію А. Астрэйкі пра двухтомнік «Паэзія жыцця» Алеся Звонака.*

*Артыкул І. Ініча «Кампазітар-гуманіст» прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Людвіга ван Бетховена.*

*Як звычайна, часопіс рэцэнзуе новыя кнігі.*

## «НЁМАН»

*Першыя старонкі часопіса адведзены вершам літоўскіх паэтаў (пераклад Л. Озерава).*

*У нумары надрукаваны апавяданні «Усе грошы з кашальком» А. Ждана, «Адна ноч» В. Поздышава, мініяцюры В. Чэпіна.*

*Пад рубрыкай «Галасы маладых» змешчаны вершы Б. Ганкіна, Н. Татур, М. Бабарыка, Г. Шыдлоўскай, Л. Шутко.*

*Часопіс друкуе таксама вершы П. Валкадаева, «Тры навелы» Я. Васілёнка (пераклад з беларускай М. Зайцава), аповесць «Мсціслаўцаў посах» Э. Ялугіна.*

*Артыкул «Новы гуманізм або гуманістычная ўтопія» М. Рожына змешчаны ў раздзеле «Публіцыстыка».*

*Апублікаваны ў часопісе пісьмы Якуба Коласа Я. Мазалькову, якія падрыхтавалі да друку супрацоўнікі Літаратурнага музея Я. Коласа Д. Міцкевіч, М. Базарэвіч, Л. Чыгрынава, а таксама ўспаміны палкоўніка ў адстаўцы В. Нікалаева «Яны не пройдуць».*

*У раздзеле «Крытыка» змешчаны артыкул «Думкі і слова» Р. Бярозкіна (пра творчасць Сяргея Дзяргая), рэцэнзіі В. Бечыка (на аповесць В. Быкава «Сотнікаў»), А. Фядосіка (на кнігу Л. Барага «Беларуская казка»).*

# ЗОРКІ СУСТРЭЛІСЯ Ў МІНСКУ







**З вялікім поспехам выступалі некалькі дзён у Мінскім палацы спорту «зоркі» савецкага кіно. Яны паказвалі сцэны з кінафільмаў, чыталі вершы, выконвалі песні.**

**На гэтых здымках вы бачыце некаторых удзельнікаў гэтага канцэрта: Георгія Віцына, Зою Фёдараву, Ніну Алісаву, Лідзію Смірнову і Людмілу Шагалаву, Сяргея Марцінсона.**

# НАШ ДАЎНІ ДРУГ

**ДА 100-годдзя З ДНЯ СМЕРЦІ К. Я. ЭРБЕНА**



Літаратурная грамадскасць Чэхаславакіі адзначыла стагоддзе з дня смерці аднаго з самых папулярных чэшскіх паэтаў — Карэла Яраміра Эрбена, аўтара шырокавядомых балад, рамансаў, вершаў, песень і казак.

«Яго творы, — падкрэсліваў Здэнек Няедлы,— адразу ж пасля свайго з'яўлення прыцягнулі такую ўвагу, якой карыстаўся мала які чэшскі паэтычны ці ўвогуле мастацкі твор». Сапраўды, зборнік балад Эрбена «Букет», які выйшаў у 1853 годзе, стаў самай папулярнай у Чэхіі паэтычнай кнігай. І гэтая любоў да вершаў Эрбена жыве ў чэшскім народзе да нашых дзён.

Прычына такой папулярнасці паэта — у яго народнасці, у яго свядомай апоры на фальклор, збіральнікам і глыбокім знаўцам якога быў Эрбен. Сваімі працамі ў галіне фалькларыстыкі К. Я. Эрбен даводзіў роднасць славянскіх народаў і іх культур, прагнуў пераканаць у тым, што «нягледзячы на ўсе сцены, ірвы і іншыя палітычныя перашкоды, мы былі і застанемся дзецьмі адной вялікай славянскай сям'і».

К. Я. Эрбен адным з першых у Еўропе звярнуў увагу на фальклор беларускага народа. У свае зборнікі «Сто славянскіх народных казак і аповесцей» (1865) і «Выбраныя народныя міфы і паданні славянскіх народаў» (1869) Эрбен уключыў і беларускія народныя казкі. У першым з названых зборнікаў нават захавана беларуская фанетыка, і нашы казкі «Мароз, сонца і вецер», «Пакацігарошак» і «Цудоўныя хлопчыкі» адкрываюць раздзел «Усходнеславянскіх казак». Для таго, каб наблізіць беларускую мову да чэшскага чытача, Эрбен дадаў да зборніка невялічкі чэшска-беларускі слоўнічак — першую лексікаграфічную працу ў гэтай галіне.

У 1867 годзе, будучы госцем Маскоўскай этнаграфічнай выстаўкі, К. Я. Эрбен у складзе дэлегацыі славянскіх дзеячоў наведаў Беларусь. «Вестник Западной России» ў тыя дні паведамляў сваім чытачам, што «славянскія госці, уступіўшы ў Паўночна-Заходні край, былі прыемна здзіўлены першаю сустрэчаю з рускімі ў Гродне, на станцыі чыгункі, дзе рускае грамадства крыкамі «ура!» і іншымі знакамі захаплення вітала іх выхад з вагонаў. Апрача таго, грымела музыка, спявалі песельнікі, дамы сустрэлі з кветкамі... Гэта сямейная, можна сказаць, сустрэча з боку рускага грамадства старажытнага рускага горада Гродні глыбока кранула нашых гасцей». Карэла Яраміра Эрбена «Вестник Западной России» прадставіў тады так: «Вітэчны спісоватэль», выдатны чэшскі пісьменнік, вельмі securely розначаковы... 

Вельмі прыязна ставіўся Эрбен да маладых славістаў з Расіі, якіх прысылалі ў Прагу для падрыхтоўкі да прафесарскага звання. Сярод іх былі і выхадцы з Беларусі. Так, малады славіст з Мінска Ул. Ю. Харашэўскі, які вывучаў у Празе гісторыю і літаратуру славян, пісаў у сваёй справаздачы ў 1862 г.: «...Тут я адразу ж пазнаёміўся з Эрбенам, знаўцам і збіральнікам народных песень, даследчыкам славянскай міфалогіі...» Знаёмства гэтае працягвалася потым некалькі гадоў.

Эрбен застаецца ў нашай памяці цудоўным паэтам і актыўным дзеячом на ніве сувязей культур нашых краін.

**А. МАЖЭЙКА.**

# ВЕРНІСАЖ Ў ВІЛЬНЮСЕ

Беларускі мастак Марк Жытніцкі шмат працуе ў жанры палітычнай сатыры. Яго вострыя, надзённыя палітычныя карыкатуры друкуюцца на старонках «Вожыка». Стварае ён і дасціпныя бытавыя замалёўкі, сяброўскія шаржы, смешныя карыкатуры. У апошні час працуе над вялікім цыклам графічных лістоў «Ахвяры фашызму».

Графічныя работы М. Жытніцкага экспануюцца цяпер у Вільнюсе. Выстаўка наладжана ў памяшканні Дзяржаўнай рэспубліканскай бібліятэкі Літоўскай ССР.

Наведвальнікі выстаўкі знаёмяцца з такімі работамі мастака, як «Амерыканская дубінка на Далёкім Усходзе», «Вянок на магілу капіталізму», гравюры на тэму «Хатынь» — «Памяць», «Помста», «Хатынскі набат», і з многімі іншымі творамі.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Літоўскай ССР Б. Мотуза піша пра гэтую выстаўку на старонках газеты «Советская Литва». Ён адзначае, у прыватнасці, што гравюры цыкла «Хатынь» — гэта «своеасаблівая паэма пра барацьбу савецкага народа за свабоду і незалежнасць», якая сведчыць пра творчы поспех мастака.

# ДЗІВАК ЧАЛАВЕК



**Калі ў гэтыя дні справы завядуць вас да нас у рэдакцыю, абавязкова зайдзіце ў аддзел выяўленчага мастацтва — там экспануюцца работы Вечаслава Дубінкі. Але можа ў вас не будзе ніякіх спраў, якія прывядуць у рэдакцыю, усё роўна — прыходзьце спецыяльна, каб паглядзець работы Вечаслава Дубінкі.**

**ЭКСПАНУЕЦЦА Ў «ЛІМе»**

Прыходзьце — не пашкадуеце!

Выстаўка В. Дубінкі незвычайная. Ён валодае дзівосным дарам выразаць з каляровай паперы розныя цуды: казачныя гарады і мудрагелістыя арнаменты, дзівосных жывёл і караблі. Папера ў яго руках набывае магічную сілу: яна то выглядае цяжкім каменем, то глядзіцца як танюсенькія карункі.

Зіма сёлета выдалася сырая, шэрая. Нават удзень у памяшканні цёмна і непрытульна. Але тут у адным з пакояў «ЛІМа» пануюць яркія фарбы, гараць сінія, жоўтыя, чырвоныя сонцы. Лунаюць сярэбраныя матылі, рвуцца ўвышыню зялёныя гарады...

На жаль, мы не вядзём кнігі водгукаў — гэта, я ўпэўнена, было б вельмі цікава. Я магу толькі прывесці тыя вусныя рэцэнзіі, якія запомніліся.

— Мне заўсёды здаецца несправядлівым, калі я гляджу альбо слухаю нешта цікавае адна. Зараз у мяне менавіта такое пачуццё...

Дзівак чалавек...
Глядзіць на расінку
макавую,
І цэлае сонца
бачыць перад сабой.
Дзівак чалавек...
Бярэ звычайную
ракавіну
І чуе ў ёй акіянскі прыбой.
Дзівак чалавек...

Гэтыя радкі з верша Анатоля Вярцінскага прачытала вучаніца дзесятага класа Іра Кожухава, разглядаючы цудоўныя выцінанкі.

Ну, а я дзесяць, а можа і дваццаць разоў уважліва разглядала работы В. Дубінкі. Па-мойму, асаблівае задавальненне яны даюць, калі ў пакоі нікога няма. Цішыня...

Што ні выцінанка — сюжэт, дзесяць сюжэтаў, сто сюжэтаў. Яны міжволі прыходзяць у галаву — смешныя і сумныя, павучальныя, фантастычныя, рамантычныя.

...Жыў-быў на свеце хлопец. Вочы ў яго былі зялёныя, валасы чорныя, рукі дужыя. Я ўжо не ведаю, хто папрасіў яго пабудаваць гэты цудоўны горад.

Ён будаваў яго і спяваў, будаваў і свісцеў. Птушкі адляталі і прылялі, людзі адыходзілі і прыходзілі, а ён будаваў і спяваў, будаваў і свісцеў. Пачулі ворагі пра гэты горад і надумалі яго ўзяць. Тады хлопец з зялёнымі вачыма, чорнымі валасамі і дужымі рукамі ўстаў на абарону яго і—перамог. Але сам загінуў.

Птушкі пакінулі горад. Пайшлі з яго людзі.

Але калі ў горадзе ідзе дождж — у шумных патоках яго чуюцца песні таго хлопца, быццам іх запомнілі і спяваюць трубы, па якіх ён стукаў сваім малатком, дахі, якія ён крыў...

Альбо:

Казлу сказалі здымацца ў кіно. Казёл як казёл — упіраўся: «Я не фотагенічны,— гаварыў ён плаксіва, — упрыгожце мяне, тады і здымайце».

Кіношны мастак прыладзіў яму галінастыя рогі, «запаліў» зорку на ілбе, падмаляваў вочы.

«Матор», — скамандаваў рэжысёр. І здымкі пачаліся.

Але гэта быў ужо іншы фільм пра іншага казла.

Вось ён глядзіць на нас са сцяны, гэты казёл, які не захацеў быць самім сабой...

Альбо:

Ваза была залатая-залатая.. Усяго ёй хапала: беласнежны абрус ляжаў пад яе нагамі, праз вялікія вокны лілося святло, якое адлюстроўвалася ў яе бліскучых баках, ды яе дакраналіся мяккімі ласкавымі пальцамі... А ёй хацелася вады, хацелася кветак: палявых рамонкаў альбо незабудак...

Гэтых гісторый вельмі многа. Вы лёгка прыдумаеце іх, калі пазнаёміцеся з выстаўкай В. Дубінкі.

Дарэчы, адрэкамендоўваю яго. Ён фотакарэспандэнт газеты «Звязда». Яго здымкі не раз экспанаваліся на розных выстаўках. Яму 28 гадоў. Выцінанкамі ён займаецца нядаўна.

Дзякую вам Слава, за радасць, якую вы даставілі. Цікава было б даведацца, дзе вы знайшлі такія вострыя, такія цудоўныя, шчыра скажам, чароўныя нажніцы?..

І. ПІСЬМЕННАЯ.

